—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
27
ВЕРАСНЯ
1991 г.
№ 39 (3605)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ—16 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)




## ЦІ ПАДПІСАЛІСЯ ВЫ НА «ЛіМ»?

Два месяцы працягваецца падпіска, аднак большасць нашых чытачоў, напэўна, адкажа на гэтае пытанне адмоўна. Што гэта: звычайная беларуская памяркоўнасць ці простая лянота! Прыгадайце мудрасць продкаў: адклад не ідзе ў лад і зрабіце кароткі шпацыр да бліжэйшага паштовага аддзялення ці агенцтва «Саюздрук». «ЛіМ» у самыя змрочныя часы выпрабаванняў заставаўся верным абранаму кірунку і сваім чытачам. Сёння правяраецца вашая вернасць «ЛіМу».

Кошт падпіскі на год ранейшы—5 рублёў 40 капеек.

Індэкс — 63856.



Восеньскія барвы.

Фота А. ШАБЛЮКА.

# Кола Дзён

Усё больш часу аддзяляе нас ад жнівеньскага путчу. Але поўнай яснасці, што ж усё-такі адбылося на самай справе, хто стаяў (ці ўсё яшчэ стаіць?) за «выдатнай васьмёркай» ГКЧП, чаму так хутка праваліўся пераварот, — поўнай яснасці няма. Замест канкрэтных адказаў на гэтыя і іншыя сур'ёзныя пытанні ў друку множацца розныя версіі і спекуляцыі на зададзеную тэму. Некаторыя «аналітыкі» найбольш ахвотна ужываюць, так бы мовіць, мастацтвазнаўчую тэрміналогію. Падзеі 19—22 жніўня называюць «спектаклем», «камедыяй», «фарсам». Ну, і канечне ж, «цыркам»...

Між тым, хоць камітэта па надзвычайным становішчы ўжо няма, надзвычайнае становішча ўводзіцца ў розных гарадах, мясцовасцях і цэлых рэспубліках.

**19 ВЕРАСНЯ**

**беларускі парламент прыняў гістарычныя рашэнні аб назве, сцягу і гербе Рэспублікі Беларусь.**

**У дар ААН ад Беларусі перададзены габелен «Чарнобыль» мастака А. Кішчанкі.**

**Генеральны пракурор СССР перадаў афіцыйныя прабачэнні А. Салжаніцыну. Крымінальная справа, узбуджаная супраць пісьменніка ў 74-м, спынена за адсутнасцю складу злачынства.**

**20 ВЕРАСНЯ**

**Вярхоўны Савет Беларусі правёў закрытае пасяджэнне па пытаннях абароны і нацыянальнай бяспекі рэспублікі. У рабоце сесіі аб'яўлены перапынак да 1 кастрычніка.**

**21 ВЕРАСНЯ**

**на рэферэндуме ў Арменіі, у якім прынялі ўдзел звыш 95 працэнтаў выбаршчыкаў, абсалютная большасць выказалася за аднаўленне дзяржаўнай незалежнасці рэспублікі.**

**Старшыня Вярхоўнага Савета Таджыкістана К. Аслонаў, які выконваў абавязкі прэзідэнта рэспублікі, прыняў указ аб спыненні дзейнасці кампартыі Таджыкістана і нацыяналізацыі яе маёмасці. Рашэннем Душанбінскага гарвыканкама дэманціраваны помнік Леніну на галоўнай плошчы сталіцы.**

**22 ВЕРАСНЯ**

**Указам Прэзідэнта СССР Старшынёй Міжрэспубліканскага эканамічнага камітэта прызначаны І. Сілаеў. Пакуль ён застаецца і Старшынёй Савета Міністраў РСФСР. Сам Сілаеў нядаўна казаў аб нелагічнасці сумяшчэння гэтых дзвюх пасад. Але ж не заўсёды ў палітыцы можна знайсці логіку. Пазней Б. Ельцын падпісаў указ аб вызваленні І. Сілаева ад абавязкаў прэм'ера.**

**Перагаворы паміж прэзідэнтам Грузіі і апазіцыяй зайшлі ў тупік пасля разгону маніфестацыі і пагрому ў штаб-кватэрах некаторых партый.**

**23 ВЕРАСНЯ**

**ў Жалезнаводску пасля 11 гадзін перагавораў паміж дэлегацыямі Азербайджана, Арменіі, Казахстана і Расіі было падпісана сумеснае камюніке па Нагорным Карабаху. Ініцыятарамі перагавораў сталі Б. Ельцын і Н. Назарбаеў, якія напярэдадні пабывалі з пасрэдніцкай місіяй у Баку, Сцепанакерце і Ерэване.**

**У Душанбе па патрабаванні камуністаў адбылася надзвычайная сесія ВС Таджыкістана. Старшыня Вярхоўнага Савета Аслонаў быў зняты са свайго паста, і яго месца заняў былы першы сакратар ЦК КП Таджыкістана Р. Набіеў. У рэспубліцы ўведзена надзвычайнае становішча. Нягледзячы на гэта, па закліку дэмакратычных сіл у сталіцы праходзіць мітынг пратэсту супраць правага перавароту.**

**24 ВЕРАСНЯ**

**Старшыня ВС Беларусі С. Шушкевіч прыбыў з візітам у Германію.**

**Старшыня ВС Украіны Л. Краўчук прыбыў у Вашынгтон, дзе сустрэўся з прэзідэнтам ЗША, лідэрамі сената і кангрэса.**

**Прэзідэнт Грузіі З. Гамсахурдзія аб'явіў аб увядзенні надзвычайнага становішча ў Тбілісі.**

**25 ВЕРАСНЯ**

**ў Тбілісі ў выніку сутыкненняў атрадаў нацыянальнай гвардыі, якія выступаюць на баку апазіцыі, з міліцыяй, вернай прэзідэнту Грузіі, загінулі два гвардзейцы і тры міліцыянеры.**

**НАША РАДА**

# БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ: КРОК НАПЕРАД, ДВА—НАЗАД?

**На гэтым, як і на мінулым тыдні, працаваў «гарачы тэлефон» «Нашай рады»**

**Адказы некаторых нашых рэспандэнтаў, якія не пакінулі па-за ўвагай адно з найбольш складаных пытанняў эканамічнага і грамадска-палітычнага жыцця рэспублікі, друкуем ніжэй.**

**Віктар ГЕРМАНОВІЧ, інжынер, 56 гадоў, г. Мінск:**

**«На ваша пытанне «БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ: КРОК У ЕЎРОПУ ЦІ ВЯРТАННЕ Ў САЮЗ» адказ можа быць толькі адназначны — выхад з Саюза, рашучае адмаўленне ад Цэнтра. Палітычная, інтэлігенцкая памяркоўнасць ніколі не дасць Беларусі сапраўднага суверэнітэту, а лакейская псіхалогія прывядзе наш урад у падпарадкаванне ад аднаго Цэнтра другому. Неабходна ўлічваць, што функцыі Цэнтра ў Саюзе будзе выконваць Расія. Я не думаю, што лідэр Расіі з-за адсутнасці інфармацыі заявіў, што ядзерная зброя ёсць толькі ў трох рэспубліках — Расіі, Украіне і Казахстане. Ці не паўстала тут Беларусь у якасці «Северо-Западного края»?**

**Саюз дэ-факта не існуе, ён нам ні ў чым не дапаможа, а Расія тым больш, бо яе эканоміка знаходзіцца ў стане рэанімацыі. Толькі Еўропа можа нас выратаваць, і то пры адной умове — калі Беларусь будзе незалежнай, суверэннай дзяржавай. Ды наш Вярхоўны Савет, большасць якога складаюць партапаратчыкі, не дапусціць выхаду з Саюза. Таму я лічу, што неабходна тэрмінова прыняць новы закон аб выбарах, распусціць гэты склад ВС, правесці выбары па новым законе яшчэ ў гэтым годзе. Новы Вярхоўны Савет павінен будзе прыняць такія законы, якія неабходны для набыцця фактычнай незалежнасці суверэннай Беларусі».**

**Аляксей ШАСТАКОЎ, студэнт Інстытута ўпраўлення, будучы менеджэр, 20 гадоў, Мінск:**

**«Толькі шлях у Еўропу. Тлумачыцца гэта нашай гісторыяй. Народ беларускі фарміраваўся ў Еўропе, калі быў у складзе Вялікага княства Літоўскага — буйнейшай еўрапейскай дзяржавы. У той час мы перажылі разам з еўрапейскімі краінамі эпоху Адраджэння, і еўрапейскі ўплыў не мог на нас не адбіцца, а мы таксама ўдзельнічалі ў фарміраванні еўрапейскай цывілізацыі. Таму іншага шляху няма — толькі аддзяленне ад Саюза.**

**Эканамічныя сувязі трэба падтрымліваць як з былым Саюзам, так і з еўрапейскімі краінамі. Што датычыць саюза з Расіяй, дык... Ідэя месіянства, абарона толькі праваслаўя (як быццам іншых рэлігій і не існуе) — гэта не для нас, у нас і такая праблема, як адраджэнне роднай мовы, гісторыі — ужо дастаткова вялікая і значная. У нас такі менталітэт, што мы не здольны на месіянскую ролю. А саюз з Расіяй нам адводзіць другарадную ролю, ставіць нас на задворкі, вымушае нас быць толькі выканаўцамі чужых ідэй.**

**Здаровы прагматызм у думках, палітыцы можна скарыстаць з вопыту прыбалтыйскіх рэспублік».**

**Віктар ІВАНЕНКА, інжынер, 28 гадоў, г. Гомель:**

**«Я — за вяртанне ў Еўропу, у якой мы некалі былі, і мелі статус моцнай дзяржавы. У Саюзе мы будзем выглядаць вельмі слабенькімі з нашай атрафіраванай самасвядомасцю. Толькі з цяжкасцю магу паверыць, што мы калі-небудзь зробім крок у Еўропу, бо цёмны народ цягне ў цемру. Раб, які не бачыў свабоды і не ведае, што гэта такое, пацягнецца-папросіцца да гаспадара, да «добрага» цара. Правядзіце рэферэндум і, можаце не сумнявацца, вынікі яго ўжо вядомыя. У нас усё нейкае несапраўднае, у тым ліку і незалежнасць. Згодзен, што нам патрэбна жорсткая нацыянальная палітыка. Толькі хто будзе яе праводзіць? Прыедзьце ў Гомель і знайдзіце хоць адзін бел-чырвона-белы сцяг, які б лунаў над будынкамі гарвыканкома ці райвыканкома. Гэта ў вас у Мінску нейкая эйфарыя, а ў нас усё, як і было».**

**Анатоль МЯЛЬГУЙ, журналіст, 33 гады, г. Мінск (тэлефанаваў нам і мінулы раз):**

**«Пытанне мае тры аспекты. Аспект першы — эканамічны. Ніякія доўгатэрміновыя і ўсеабдымныя саюзы для Беларусі непрымальныя. У іх мы будзем пачувацца жабракамі. Толькі прадуманая і мэтанакіраваная асацыятыўнасць з Еўропай і Саюзам дасць плён. Эканамічны прагматызм павінен перамагчы палітычную гульню ў «добрую кампанію» пад назвай «Саюз суверэнных дзяржаў». Аспект другі — палітычны. Надалей павінен усталявацца разумны палітычны баланс паміж суседнімі з Беларуссю рэспублікамі, паміж Усходам і Захадам. Ад тых і другіх нам трэба дабівацца прызнання нашай незалежнасці, а без выпрацаванай дзяржаўнай стратэгіі гэтага мы ніколі не даможамся. Абачлівасць і настойлівасць — галоўны прынцып міжнароднай палітыкі. І трэці аспект — культурны. З гістарычнай самабытнасцю беларускага народа ў імперыі ніхто не лічыцца і не збіраецца лічыцца. Нашы культурныя здабыткі павінны быць пераарыентаваны ў Еўропу, у спадзяванні на тое, што старая цывілізацыя ўспрыме іх. Але для гэтага трэба грунтоўнае адраджэнне нацыянальнай культуры ў нас на радзіме, стварэнне сучасных сродкаў перадачы іх у камунікатыўную сетку Еўропы».**

**Валерый КРЭСАЎ, інжынер-механік, 45 гадоў, г. Мінск:**

**«Толькі крок наперад, і ні кроку назад, у Саюз, нават вельмі падноўлены! Вядома, без эканамічных і культурных сувязей з усімі рэспублікамі былога Саюза нам не абысціся, іх трэба наладжваць і падтрымліваць на аснове раўнапраўных дагавораў, развіваць рынрчныя адносіны. Ёсць жа прыклад —прыбалтыйскія рэспублікі. Аднак, галоўнае, выхад на еўрапейскі рынак».**

**Ніна БУДА, інжынер, 40 год, г. Гомель:**

**«Наш шлях — гэта шлях толькі ў Еўропу і ніякага вяртання ў Саюз, бо тады нас чакае тое становішча, якое мы мелі дагэтуль — так і застанемся калоніяй. Эканамічныя сувязі трэба падтрымліваць, але ніякіх палітычных кампрамісаў. Апроч усяго, настойліва і ўпарта развіваць нацыянальную самасвядомасць».**

**Эдуард БАХМАТОВІЧ, былы ваеннаслужачы, 52 гады, г. Мінск:**

**«Падпісваюся пад словамі настаўніка М. Бусла, што калі аддзелімся ад Саюза, то тады ўсё пачне працаваць на Беларусь, на незалежнасць. Свой, беларускі, шлях у Еўропу трэба сур'ёзна прадумаць, паспешлівасць на карысць не пойдзе».**

**Ксеня НЯХАЙЧЫК, пенсіянерка, 64 гады, г. Мінск:**

**«Беларускі шлях — без Саюза, без Гарбачова, з Літвой».**

**Віталь АБРАМОВІЧ, пенсіянер, 64 гады, г. Мінск:**

**«Мне здаецца, што пытанне сфармулявана не зусім дакладна. Лепш яно гучала б так: «Поўная палітычная самастойнасць і эканамічныя ўзаемавыгадныя сувязі з Усходам і Захадам ці вяртанне ў Саюз?» Я, канечне, за крок у Еўропу. Людзям трэба растлумачыць, што мы нічога не рвём, а толькі вяртаем тое, што нам узаемавыгадна і ўзаемапрымальна. Толькі ўперад, у Еўропу!»**

**Мікола БУСЕЛ, настаўнік, вёска Дуброва, Гомельшчына (адгукнуўся, як і мінулы раз):**

**«Толькі ў Еўропу! Бо пакуль нас будуць трымаць у абдымках імперыі, мы будзем рэзерватам. Хай да нас прыйдзе Еўропа, хай у нас будзе беларускае эканамічнае дзіва — мы яго вартыя, толькі зрабіць яго можна самім, без цэнтра, без комплексу непаўнавартасці. А пазбыцца яго можна толькі ў рэальна самастойнай дзяржаве — Рэспубліцы Беларусь. Першыя ж станоўчыя праявы незалежнасці зробяць нас нацыяй».**

**Леанід БАРАЗНЁНАК, начальнік тэхналагічнага бюро Мінскага завода вылічальнай тэхнікі, 51 год, г. Мінск:**

**«Неадкладна выходзіць з Саюза! Думаю, што горш жыць не будзем, бо куды ўжо горш. Некаторыя людзі палохаюцца метаду «хірургічнага ўмяшальніцтва», аднак трымацца за тое, што само па сабе развалілася, спрабаваць любым спосабам гэтыя рэшткі камуністычнай імперыі змяніць, — нельга! На маёй памяці разбурылася Брытанская імперыя і нарадзіліся краіны Брытанскай садружнасці. Я галасую менавіта за падобны тып адносін паміж незалежнымі дзяржавамі...**

**Узяць хоць бы наш завод. Колькі ведамасных прыступак, а адсюль — цэлая лесвіца дармаедаў-упраўленцаў. Мяркуйце самі: наш МЗВТ падпарадкоўваецца галаўному заводу імя Арджанікідзе, той, у сваю чаргу, Мінскаму аб'яднанню вылічальнай тэхнікі, якое залежыць ад рэспубліканскіх кіруючых устаноў, ну а разам мы ўсе падпарадкоўваемся саюзным бюракратам. Зробленыя кроўныя нашы грошы ідуць у кішэні трутняў-упраўленцаў. У Еўропе такога няма...»**

**Мікалай ПАРХУТА, інжынер НВА «Агат», 40 гадоў, г. Мінск:**

**«Я і мае калегі адказваем так: крок у Еўропу! Пастунова скіроўваць свае арыенціры туды, але і не рваць кантактаў з былымі саюзнымі рэспублікамі. Словам, зацвярджаць сябе як паўнапраўнага суверэннага партнёра па эканамічных, культурных і іншых сувязях».**

**Іван ПУГАЧЭЎСКІ, выкладчык Беларускай політэхнічнай акадэміі, 58 гадоў, г. Мінск:**

**«Скіравацца на Еўропу. Усе гандлёвыя кропкі, бытавое абслугоўванне аддаць у прыватныя рукі, каб пазбавіцца ад беззаконня. Дробныя нерэнтабельныя прадпрыемствы закрыць або пераўтварыць. Адкрываць акцыянерныя таварыствы. Напрыклад, трактарны завод павінен заставацца пакуль дзяржаўным прадпрыемствам, але даць магчымасць яго рабочым набываць акцыі. Аддаць зямлю сялянам, забяспечыць іх тэхнікай. Стварыць своеасаблівыя аб'яднанні па сумеснай апрацоўцы зямлі. Падсобныя гаспадаркі пераўтвараць у кааператывы, сельскія канцэрны, каб людзі карысталіся вынікамі сваёй працы. Інакш нас чакае тая ж прыгонная сістэма...»**

**Новае пытанне «Нашай рады»:**

**«Суверэнітэт — гэта і беларусізацыя нашага духоўнага жыцця. Ці адчуваеце вы яе ў сваім горадзе, мястэчку, вёсцы! Што замінае ажыццяўленню беларусізацыі ў рэспубліцы!»**

Сёння, 27 верасня, а таксама ў панядзелак і аўторак, 30 верасня і 1 кастрычніка, з 13 да 16 гадзін мы чакаем вашых адказаў па тэлефоне: 33-19-85.

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ.**

# У чаканні навін

**«Добры вечар шаноўнаму спадарству!» — так з нядаўняга часу пачалі вітаць нас дыктары інфармацыйнай праграмы БТ «Панарама». Што ж, прыемна сябе адчуваць «спадаром» каля блакітнага экрана. Толькі, шчыра кажучы, неяк не стасуецца гэтае традыцыйнае, хоць і нязвыклае, на жаль, для многіх, прывітанне з тэлешапкай, якой па-ранейшаму адкрываецца праграма. Едуць трактары, круцяцца дыскеты, таньчыць балерына... Так бы мовіць — рэспубліка ў руху.**

**Зразумела, новую «шапку» (а яна каштуе немалых грошай) умомант не зробіш. Ды і не ў ёй жа, у рэшце рэшт, справа, а ў тым, што ПАД шапкай. А там, у праграме галоўным чынам усё тое ж—трактары, палеткі, станкі. І многа выступаючых, якія гавораць пра станкі, палеткі...**

**Нават у дзень абвяшчэння Рэспублікі Беларусь «Панарама» не забылася знайсці час, каб паведаміць, што нейкі завод пачаў выпуск нейкіх вузлоў і дэталяў. Магчыма, без гэтых самых дэталяў прамысловасці Беларусі не пражыць і дня. Магчыма. Але гледачам гэтага не растлумачылі, пакінуўшы прымаць на веру, што ім паведамляюць толькі самае важнае, самае цікавае... Раней падобную інфармацыю называлі «радыйнай». Але той, хто рэгулярна слухае Беларускае радыё, пагодзіцца, відаць, што апошнім часам яно яўна выйграе ў аператыўнасці і змястоўнасці інфармацыі ў параўнанні з тэленавінамі. (Назавём, скажам, радыёстанцыю «Факт»).**

**Усё гэта не маглі не ўсведамляць супрацоўнікі Галоўнай рэдакцыі інфармацыі БТ. І таму на мінулым тыдні адбылося тое, што, відаць, не магло не здарыцца. Калектыў рэдакцыі на сваім сходзе выказаў недавер галоўнаму рэдактару і яго намеснікам. Калектыў патрабаваў ад кіраўніцтва тэлебачання прадастаўлення большай самастойнасці і змены структуры ГРІ ў адпаведнасці з новымі задачамі. Калі гэтыя патрабаванні не будуць выкананы да 15 кастрычніка, удзельнікі сходу пакідаюць за сабой права на забастоўку.**

**А што рабіць гледачам да 15 кастрычніка? Чакаць і спадзявацца? А ці нельга ўжо цяпер хоць нешта ім паказаць з той, будучай «Панарамы»? Ці як там яна будзе называцца...**

**Будзем чакаць навін.**

**Віталь ТАРАС,**
**спадар.**



**ЗДЫМАК НА ПАМЯЦЬ**

**Гэты здымак зроблены на памяць пра паездку навучэнцаў Музычнага ліцэя пры БДК у Германію. Удзельнікі хору ліцэя па запрашэнні пастара Артура Рэшке з горада Грэвенбройха адпачывалі там, папраўлялі здароўе перад новым навучальным годам. Беларускія дзеці правялі шэраг харавых канцэртаў.**

## ТЭРМІН ПРАДОЎЖАНЫ

**Міністэрства культуры Беларусі прыняло рашэнне ўважыць просьбу Саюза мастакоў і Саюза архітэктараў Беларусі і прадоўжыць тэрмін падачы матэрыялаў на раней абвешчаны рэспубліканскі конкурс, звязаны з праектаваннем помніка Кастусю Каліноўскаму ў г. Гродне, да 1 лютага 1992 года.**

# Я хацеў спытаць у Вас, спадар Шыркоўскі...

## Інтэрв'ю, якое не адбылося

НЕ ВЕДАЮ, мо ў «ЛіМа» «не тая» рэпутацыя, але сустрэцца з яе прадстаўніком Вы, Эдуард Іванавіч, як старшыня рэспубліканскага камітэта дзяржаўнай бяспекі, як галоўны чэкіст Беларусі, адмовіліся. Для мяне гэта было нечаканасцю, бо я чуў пра Ваша прыхільнае стаўленне да журналістаў, а з іх боку—пачцівыя адносіны да Вас. Помню публікацыі некаторых сваіх калег, у якіх яны з замілаваннем расказвалі пра Вашу дэмакратычнасць, пра тое, што ў паўсядзённым побыце паводзіце сябе вельмі сціпла, як усе мы, смяротныя, карыстаецеся талонамі на цыгарэты, гарэлку і да т. п. І ў першыя пасляпутчавыя дні многія беларускія журналісты паспяшаліся расказаць рэспубліцы і ўсёй краіне, што падначаленае Вам ведамства ў першы ж дзень перавароту адмовілася выконваць пастановы ДКНС. Я разумею і Вашу асабістую мужнасць у гэтых складаных абставінах, тым больш, калі мець на ўвазе, што Ваш былы ўсесаюзны шэф Кручкоў — генерал арміі, а Вы пакуль што яшчэ генерал-маёр...

Усё гэта я хацеў Вам сказаць вока на вока, але не атрымалася... Праўда, мне пашанцавала сустрэцца на нядаўняй прэс-канферэнцыі з вашым намеснікам Генадзем Міхайлавічам Лавіцкім, вельмі сімпатычным элегантным мужчынам, які расказаў пра дзеянні камітэта дзяржаўнай бяспекі ў той чорны панядзелак 19 жніўня. Шчыра кажучы, Эдуард Іванавіч, яго аповяд, як і расказы ягоных калег з міністэрстваў унутраных спраў і юстыцыі, рэспубліканскай пракуратуры, якія таксама прысутнічалі на прэс-канферэнцыі (дарэчы, яна была арганізавана Саўмінам БССР), можна было звесці да распаўсюджанай апошнім часам схемы. У двух словах яе можна абмаляваць наступным чынам: даведаліся пра путч па радыё; адразу сабраліся, каб параіцца; аднадушна прыйшлі да высновы, што пераварот — антыканстытуцыйны і ўсе загады і пастановы путчыстаў трэба праігнараваць...

Вельмі, Эдуард Іванавіч, хацелася ў гэта верыць, ды вось бяда — не ўсё тут стыкавалася паміж сабой, многае гучала, шчыра скажу, не вельмі пераканаўча. Вось і Генадзь Міхайлавіч як бы між іншым сказаў, што, даведаўшыся пра путч, кіраўнікі КДБ аддалі загад аб прывядзенні ведамства ў павышаную баявую гатоўнасць, «бо можна было чакаць абвастрэння палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы». Я пацікавіўся ў яго, супраць каго чэкісты збіраліся ўжываць зброю ў выпадку «абвастрэння сітуацыі»? Генадзь Міхайлавіч растлумачыў, што «ў нас ёсць нямала злачынных элементаў»... Пагадзіцеся, не вельмі пераканаўчы адказ. Праз некалькі дзён я прачытаю ў «Известиях» рассакрэчаную шыфратэлеграму, дасланую 19 жніўня старшынёй КДБ СССР У. Кручковым старшыням КДБ рэспублік, і ў ёй такія радкі: «З атрыманнем дадзенай тэлеграмы органы і войскі КДБ СССР перавесці ў стан павышанай баявой гатоўнасці». Дык чаму б Вашаму намесніку не сказаць шчыра, што вось адзін-адзіны загад Кручкова давялося ўсё-такі выканаць...

Я разумею, Вы можаце сказаць — «лёгка даваць парады збоку...» Лёгка. І ўсё-такі, Эдуард Іванавіч, скажу, што не толькі ў мяне выклікае неўразуменне імкненне многіх нашых палітычных і дзяржаўных дзеячаў афішаваць зараз сваю адданасць ідэалам дэмакратыі ў тыя дні выпрабаванняў. Але ж ніхто з іх не ўзняўся да ўзроўню расійскіх лідэраў, якія адразу, не вагаючыся, сказалі сваё цвёрдае «не» путчыстам, узнялі супраць іх шырокія масы людзей. У нас жа сёй-той з тых, хто мае ўладу, вырашыў, як кажуць, перахітрыць самога сябе. Помню, як на сесіі Вярхоўнага Савета БССР М. Дземянцей, адказваючы на шматлікія папрокі дэпутатаў, апраўдваў свае паводзіны ў час путчу, сваё прызнанне ДКНС тым, што хацеў, каб рэспубліку, маўляў, пакінулі ў спакоі, не ўводзілі тут надзвычайнага становішча. «Формулу» гэтую ўзялі на ўзбраенне многія прадстаўнікі вышэйшага эшалону ўлады ў Беларусі, якія зараз выстаўляюць сябе ледзь не яе выратавальнікамі. Але ж ёсць такія паняцці, як мараль, прыстойнасць, гонар. Яны несумяшчальныя з абывательскім, шкурным інтарэсам — не чапайце нас, і мы вас не зачэпім. І гэта ў той час, калі на карту быў пастаўлены лёс дэмакратыі, калі была рэальная пагроза гвалтоўнага вяртання ўсіх нас у бальшавіцкае пекла, адкуль мы толькі-толькі выкараскаліся...

Ведаеце, Эдуард Іванавіч, калі я вёў перамовы аб нашай сустрэчы, мне раптам успомнілася, што ўжо аднойчы быў у вашым «заведении». Праўда, не зусім па сваёй волі. Не, не як дысідэнт ці які-небудзь іншы «вораг». Той «візіт» у КДБ меў хутчэй кур'ёзны характар, хоць тады мне было не да смеху. Недзе ў годзе сорак дзевятым, а мо пяцідзесятым на факультэце журналістыкі БДУ, дзе я тады вучыўся, быў створаны фотагурток, куды я адразу запісаўся, бо што гэта за журналіст, які не валодае фотасправай. Здымалі, што трапіць на вока. Больш гарадскія пейзажы, хоць выбару «аб'ектаў» для фотаздымкаў было небагата — Мінск яшчэ быў не адбудаваны. Самымі вялікімі будынкамі ў горадзе пад той час былі Дом урада і толькі што пабудаваны гмах, у якім размясціўся КДБ. Вось туды аднойчы мы і пашыбавалі ўтрох. Перайшлі на процілеглы бок вуліцы і пачалі шчоўкаць, імкнучыся «схапіць» у кадр і вартавых, што хадзілі ўзад-уперад перад будынкам, час ад часу прыспешваючы прахожых вокрыкамі: «Проходзьце хутчэй!» Мы ўжо, здаецца, заканчвалі здымкі, як раптам побач з намі выраслі нібы з-пад зямлі двое мужчын у цывільным і, падхапіўшы пад рукі, пацягнулі праз вуліцу. Помню, увялі нас у будынак з боку Камсамольскай вуліцы, потым правялі па доўгім калідоры і ўпіхнулі ў невялікі пакой. Забраўшы фотаапараты і студэнцкія білеты, «агенты» (як мы іх ахрысцілі) выйшлі, папярэдзіўшы, каб мы сядзелі ціха і чакалі іх. Я і цяпер помню жах, які нас ахапіў. Краіна ж жыла тады яшчэ пад бацькам Сталіным, і пры ўсёй юнацкай наіўнасці мы разумелі, чым «чревато» гэтае наша затрыманне. Засудзяць, як шпіёнаў, і нічога не дакажаш. Але абышлося... Прыйшлі за намі гадзіны праз дзве, вярнулі апараты, праўда, без плёнак, і адпусцілі. Назаўтра куратар нашага курса Марк Саламонавіч Зярніцкі, чалавек на рэдкасць асцярожны і палахлівы, адвёўшы нас убок, шэптам спытаў: «Вы ведаеце, хто пра вас распытваў?» І акругліўшы вочы, паказаў пальцам на столь: «Адтуль...»

Дык што такое, Эдуард Іванавіч, у нашым жыцці КДБ? Апошнія гады не без старанняў Вашага ведамства народу імкнуцца ўнушыць, што ў органах бяспекі адбыліся незваротныя змены, што гэта ўжо не той «узброены атрад партыі», што наводзіў жах сваім перманентным тэрорам, на рахунку якога ГУЛАГ з яго мільёнамі загубленых жыццяў. Ну што ж, змены сапраўды ёсць. Калі б я сёння пайшоў фатаграфаваць будынак КДБ, ніхто б, відаць, не звярнуў на мяне ўвагі. Але ж па-ранейшаму грамадства не ведае сапраўдных памераў Вашай арганізацыі, многіх аспектаў яе дзейнасці, сферы ўплыву. Аб надзвычай складанай структуры КДБ можна ў нейкай ступені меркаваць па нагаданай ужо шыфратэлеграме Кручкова, якую ён разаслаў у дні путча па наступных «адрасах»: «Старшыням КДБ рэспублік, начальнікам упраўленняў КДБ СССР па краях і абласцях, начальнікам Упраўленняў Асобых аддзелаў КДБ СССР па акругах, флатах, аб'яднаннях і злучэннях цэнтральнага падначалення, начальнікам войск пагранічных акруг КДБ СССР, начальнікам галоўных упраўленняў, самастойных упраўленняў і аддзелаў КДБ СССР, камандзірам злучэнняў і асобных часцей войск КДБ СССР».



«Жалезны Фелікс» глядзіць са свайго пастамента ў вокны будынка КДБ. Фота Ул. КРУКА.

Адным словам, пастаўлены над грамадствам замкнёны саюз «мечаносцаў» са сваёй палітыкай, сваім светаадчуваннем, сваімі ідэаламі, нарэшце, сваёй мараллю, калі тое, што я маю на ўвазе, можна назваць мараллю.

Я б спытаўся ў Вас, Эдуард Іванавіч, ці будзе надалей КДБ заставацца, па сутнасці, палітычнай паліцыяй, якая займаецца зборам звестак аб ладзе мыслення грамадзян, татальным сачэннем за імі. Нядаўна ў «Комсомолке» прамільгнула невялікая нататка аб тым, як у Маскве было арганізавана падслухоўванне тэлефонных размоў. Аказваецца, на ўзроўні сусветных тэхнічных стандартаў. Усе размовы «прапускаліся» праз электронную сістэму, якая пачынала «дзейнічаць», калі гучалі пэўныя «падазроныя» словы тыпу «Крэмль», «КДБ», «граніца» і да т. п. У гэтым выпадку запісвалася ўся размова з указаннем тэлефонаў абанентаў. У нас таксама ёсць такая сістэма?

Ці будзе і надалей у нас працягвацца, спадар старшыня, вярбоўка так званых «сексотов», «доброжелателей», «стукачей» у розных слаях грамадства, у тым ліку і сярод інтэлігенцыі, студэнцтва? Апошнім часам, Вы, мабыць, ведаеце, такія выпадкі пачалі ўсплываць на паверхню. Людзі, якія трапілі ў расстаўленыя чэкістамі сілкі, расказваюць, як цынічна, з ужываннем маральнага і псіхалагічнага ціску іх прымушалі станавіцца даносчыкамі, правакатарамі.

А пастаяннае Ваша ўмяшанне ў духоўную сферу —літаратуру, мастацтва, культуру, урэшце, жыццё творчых саюзаў? Нядаўна пленум Саюза пісьменнікаў СССР прыняў пастанову, у якой патрабаваў ад Камітэта дзяржаўнай бяспекі адазваць сваіх агентаў з апарату гэтай творчай арганізацыі. Наш беларускі Саюз пісьменнікаў пакуль што такой заявы не зрабіў (чаму?), хоць многія ведаюць у твар ледзь не афіцыйнага «куратара» з КДБ, які час ад часу, з толькі яму вядомай мэтай наведвае Дом літаратара... Пра іншых «доброжелателей», якія працуюць на КДБ на прадпрыемствах, ва ўстановах, воінскіх часцях, інстытутах, у кааператывах, людзі могуць толькі здагадвацца...

Нядаўна ў адным з інтэрв'ю новы старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі СССР Вадзім Віктаравіч Бакацін выказаўся супраць абнародавання імёнаў людзей, завербаваных КДБ, бо гэта можа ўнесці раскол у грамадстве. Маўляў, нават людзі, якія адмовіліся ад прапановы супрацоўнічаць з гэтай арганізацыяй, усё роўна былі занесены ў картатэку... Магчыма, В. Бакацін мае рацыю, але ўспомнім, што адразу пасля лютаўскай рэвалюцыі былі раскрыты архівы ахоўнага аддзялення і грамадскасць даведалася пра імёны многіх буйных правакатараў, якія працавалі на паліцыю, хоць бы таго ж Маліноўскага — давераную асобу Леніна. Не ведаю, Эдуард Іванавіч, як наконт дробных даносчыкаў, але прозвішчы ўкаранёных у палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі і рухі правакатараў павінны былі быць абнародаваны. Менавіта цяпер, пасля таго, што адбылося ў краіне.

Я разумею, што такая арганізацыя, як КДБ, мае пэўную спецыфіку. Тут, і гэта, відаць, зусім натуральна, нават спісы асабовага складу з'яўляюцца сакрэтнымі. І пэўныя сакрэтныя фонды тут — нармальная з'ява. Але ж гэтая сакрэтнасць павінна быць прававой, законнай. Чаму тайнай за сямю пячаткамі застаецца даведачна-інфармацыйная служба КДБ? Нічога невядома пра сувязь карных органаў з камуністычнай партыяй, усёй каманднна-адміністрацыйнай сістэмай. Увогуле, пра ўсю гісторыю рэпрэсій, дысідэнцтва на працягу сямідзесяці з нечым гадоў савецкай улады. Мяркую, што ў адной з сакрэтных металічных скрыняў Вашага архіва, Эдуард Іванавіч, ляжаць і дакументы, звязаныя з курапацкай трагедыяй, з імёнамі супрацоўнікаў НКУС, якія практычна ажыццяўлялі масавыя расстрэлы людзей. Ці не на глебе гэтай сакрэтнасці апошнім часам з'явілася вельмі падазроная «грамадская камісія», якая імкнецца абвергнуць вынікі афіцыйнага расследавання даваенных расстрэлаў у Курапатах. Адным словам, архівы КДБ хаваюць нямала дакументаў, якія, па словах вядомага ў мінулым дысідэнта Уладзіміра Букоўскага, далі б магчымасць інакш ацаніць многія падзеі, што адбыліся ў свеце ў апошнія дзесяцігоддзі. Там ёсць ключы да многіх тайнаў...

Дзяржбяспека ў жнівеньскім путчы адыграла ці не цэнтральную ролю. Ваш былы галоўны ўсесаюзны шэф Кручкоў апынуўся за кратамі, яго месца заняў Вадзім Віктаравіч Бакацін, які зарэ-

**(Працяг на стар. 12).**

**КНІГАПІС**

Алесь Аркуш
Тайніца
Павал Бурдыка

Алесь АРКУШ. Павел БУРДЫКА. Тайніца. Вершы. Полацак, 1991.

**Маладыя наваполацкія паэты Алесь Аркуш і Павал Бурдыка ўжо вядомы чытачам па публікацыях у рэспубліканскім друку. У прыватнасці, іх вершы друкаваліся ў «Бібліятэцы часопіса «Маладосць».**

**У зборніку «Тайніца» абодва аўтары прадстаўлены верлібрамі, блізкімі да вершаў у прозе. Роздум пра супярэчнасці і таямніцы быцця складае яго асноўны змест.**

**Сумесная кніжка выдадзена сваім коштам і адрэдагавана на грамадскіх пачатках Уладзімірам Арловым.**

Павел Прудніказ
крыніцы

П. ПРУДНІКАЎ. Крыніцы. Выбранае. Мінск. «Мастацкая літаратура», 1991.

**Кніга «Крыніцы» — творчая справаздача аднаго са старэйшын нашай паэзіі да 80-годдзя. У аднатомнік увайшлі лепшыя вершы П. Пруднікава, напісаныя больш чым за 60 гадоў, а таксама паэмы «Заасцёр'е», «Запозненае прасвятленне», «Таймыр». Значнае месца ў іх займае перажытае ў гады сталінізму, калі аўтар, як і многія іншыя беларускія пісьменнікі, зведаў жахі лагераў.**

**Прадмову «Дарогамі любові і нянавісці» напісаў Алесь Марціновіч.**

Илья Борисов
Человек из легенды

І. БАРЫСАЎ. Чалавек з легенды. Дакументальная аповесць. На рускай мове. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1991.

**Жыццё Кірылы Пракопавіча Арлоўскага даўно стала легендай. Часам нават цяжка сказаць, што на сённяшні дзень было на самай справе, а што дадумана. Таму кніга І. Барысава ўяўляе асаблівую цікавасць, паколькі аўтар прытрымліваецца дакументальнай асновы, выкарыстоўвае многія матэрыялы, якія дагэтуль ніхто ў руках не трымаў.**

**Прадмову напісаў генерал-маёр запасу А. Рудак.**




Р. ЛУБКІЎСКІ. Веча буслоў. Паэма. На ўкраінскай мове. Кіеў. «Веселка», 1990.

**У паэме даўняга сябра Беларусі Рамана Лубкіўскага «Веча буслоў» дзень сённяшні скрыжаваны з мінулым. Аўтар вяртаецца да вытокаў славянскіх народаў, услаўляе дружбу і еднасць.**

# Застацца чалавекам

## Чытаючы вершы Алеся ЗВОНАКА



ЦІ ЗВЯРНУЛІ вы ўвагу, як цікава ў апошнія гады працуе Алесь Звонак? Ён і да гэтага быў добра вядомы ў беларускай паэзіі як аўтар многіх кніг, з зайздросным майстэрствам напісаных вершаў і паэм. Помню, я быў ужо студэнтам, калі ўпершыню пазнаёміўся з яго творчасцю. Гаворка ідзе пра зборнік вершаў «Табе адной» — пафасна-патрыятычны, — як сказаў пра Звонака яго сябар па жыццёвых дарогах М. Хведаровіч,— цыкл аб мужным і гордым чалавеку. Зборнік «Табе адной» убачыў свет у 1957 годзе, пасля доўгага перапынку, калі паэт быў адарваны ад Беларусі і літаратурнага жыцця, і здолеў вярнуцца на радзіму толькі недзе ў сярэдзіне 50-х. З таго часу шмат працаваў у самых розных жанрах, але найперш — як паэт, які зарэкамендаваў сябе майстрам адточанай мастацкай формы. Вядома, як і ў кожнага, не ўсё ішло гладка. Побач з удачамі пракідаліся і слабейшыя творы. Часам перашкаджаў, на наш погляд, залішні пафас, што межаваў з рыторыкай і нават некаторай другаснасцю думак і перажыванняў, якія мелі не столькі асабісты, колькі агульны характар. (У дужках зазначым, што ёсць у Звонака таксама падставы, каб крыўдаваць на няўвагу да сябе, папракаць у гэтым сэнсе нас, крытыкаў.)

І вось — новыя вершы, адна за другой нізкі ў «Полымі», «ЛіМе», «Беларусі»...

**Неба вымыта чыста**
**Першым майскім дажджом.**
**Незвычайна ўрачыста**
**Выглядае наш дом.**

**Дом — кавалачак шчасця.**
**Родны кут. Ціхі сад.**
**Сонца ў шыбах вачастых.**
**Тонкі піск птушанят.**

**Трэль салоўкі ў зацішку.**
**Тонкі пах рэзеды...**
**...Ах, як добра, што вышку**
**Не схапіў я тады!**
**(«Спавядальнае»)**

Звярніце ўвагу на апошнія два радкі — як, на якім уздыху-выдыху гэта сказана. Для мяне яны гавораць больш, чым які-небудзь том успамінаў. У многіх выпадках паэт дасягае той аголенасці праўды, якая — смелая і шчырая — робіць гонар яму як чалавеку і мастаку. У дачыненні да апошніх яго твораў ёсць падставы гаварыць пра сапраўдныя мастацкія адкрыцці, новую паэтычную інтанацыю — больш размоўную і праўдзівую, набліжаную да чалавечага дыхання.

Гэтыя вершы вельмі цікава чытаць. Звонак у іх расказвае,

**Па калымскіх распадках,**
**Ля празрыстых крыніц**
**Я разгадваў загадкі**
**Залатых таямніц.**

**Я вазіў на бутару**
**Сланец-грунт залаты.**
**Услаўляў сваю мару**
**Незямной пекнаты.**

**Услаўляў яе ўпотай**
**Не пакутным радком.**
**Не мінорнаю нотай,**
**Не цярновым вянком,**

**Не пакорай хрыстовай,**
**Не кляцьбой на крыжы —**
**Праўды горкаму слову**
**Як умеў, так служыў!**

Яго лірычная апавядальнасць увабрала ў сябе роздум і публіцыстыку, споведзь і пропаведзь, эмацыянальную пранікнёнасць і інтэлектуальную глыбіню.

Пісаць пра гэтыя нізкі не проста — патрэбен адпаведны такт, павага да душэўнага жыцця аўтара, да перажытага ім.

Цяпер паэт пазбягае знешняга пафасу, чым, здаралася, грашыў раней, адналінейнасці, імкнецца да шматмернасці слова, яго сэнсавай глыбіні, да новага пункту гледжання на падзеі. Вазьміце, напрыклад, верш «Варнакі», які дзіўным чынам нагадаў мне паэму М. Чарота «Босыя на вогнішчы» (пачатак 20-х гадоў), хоць гэта, вядома, вельмі розныя творы. «Варнакі»—усяго толькі лірычнае пасланне каханай («Вярніся, вярніся, вярніся — пісала. А як я вярнуся, скажы?»), але па сэнсу свайму ён значна шырэй. А. Звонак паказвае «варнакаў»-зэкаў, што тупаюць-грэюцца ля таежнага вогнішча. Гэты зрокавы вобраз якраз і выклікае ў памяці рэвалюцыйны карнавал народных мас у «Босых на вогнішчы» М. Чарота.

**...Палаюць лаўжы**
**І скачам наўкруг мы, як**
**пекла пасланцы.**

**І чорныя цені бягуць:**
**Ад сцюжы дзікунскім**
**ратуемся танцам**
**І глушым кляцьбою тайгу.**

Паэт (ён жа і герой гэтага верша) пратэстуе супраць трагічнай абсурднасці свету, у якім даводзіцца жыць.

**Вер, мілая, вер, набярыся**
**цярпення,**
**Не будзь беззаконня рабой!..**
**Ярчэй свеціць сонца пасля**
**зацямнення:**
**Я веру ў сустрэчу з табой.**

Надзея, як кажуць, памірае апошняй...

Гэтыя нізкі, думаецца, у большай ступені, чым папярэднія творы, звязаны з жыццёвым вопытам аўтара, з усім пражытым і перажытым. Знойдзем тут імёны сяброў-паэтаў і пісьменнікаў Хадыкі, Багуна, Ракіты, Дзеркача, Галавача, Чарота... Звонак гаворыць і за іх.

Нейкі «сібарыт» (вобраз яго дасціпна намаляваны ў вершы «Трын-трава») незадаволена бурчыць: «Ізноў калымская тэма... Колькі можна?» Паэт не звяртае на яго ўвагі. І правільна робіць: у новых вершах ён адкрыў нам шмат такога, пра што раней і гаворкі не магло быць — можна было толькі маўчаць. Ёсць падставы гаварыць пра значнае пашырэнне сектара творчай свабоды, асабліва ў параўнанні з ранейшым перыядам. І гэта акалічнасць не толькі не ўносіць у яго светапогляд элементаў якой-небудзь анархічнасці ці эклектыкі, а наадварот — робіць яго больш арганічным і цэласным. Роздум аб мінулым для А. Звонака — гэта адначасова пошукі зместу чалавечага жыцця, аднаўленне і ўмацаванне агульначалавечых маральных норм. Яго лірычны герой змагаецца за жыццё, якое кожную мінуту могуць ад цябе забраць, пазбавіць.

У вершах Звонака ёсць вобразы тых, каго паэт называе «гуманістамі знішчэння» (паводле вядомага горкаўскага выразу «Калі вораг не здаецца, яго знішчаюць»). Гэта апорныя слупы сістэмы. Такім «гуманістам» выступае начальнік КВЧ (культурна-выхаваўчай часткі лагера), які ў адказ на просьбу вязняў пасляць іх на фронт паказвае сябе як непахісны ахоўнік сістэмы.

**Ён, наш духоўны пастыр,**
**абвёў нас строгім вокам:**
**— Парушыць не дазволю**
**гулагаўскі статут—**
**Да Сталіна высока, да**
**Берыі далёка,**
**Памерці ж за Айчыну вы**
**можаце і тут.**
**(«КВЧ»).**

А вось постаць канваіра — «служакі ВОХРы», — які суправаджае зэкаў на этапе.

**— Скажы, служака ВОХРы,**
**Куды вязеш ты нас?**
**— Для ворагаў і контры**
**Дарога ў нас адна.**

**І ён кіўнуў на сопкі,**
**Што беглі чарадой,**
**І жэстам нетаропкім**
**Нам паказаў на дол.**
**(«На этапе»).**

Класавае, сектанцкае, начальніцкае пануе над агульначалавечым, даводзячы рэчы да абсурду.

У адным з вершаў ёсць радкі, у якіх малюецца выгляд калымскага канцлагера (аднага з самых аддаленых, тупіковага, недзе каля Яўрашкалаху):

**Як вежы замкаў — вышкі**
**Па чатырох вуглах.**

Турма — замак. Па асацыяцыі ўспамінаецца «Замак» Ф. Кафкі. Не ведаю, ці чытаў гэты раман А. Звонак, але, тым не менш, беларускі паэт паступова фармулюе тую ж думку, якая з'яўляецца галоўнай у знакамітым творы Ф. Кафкі.

**Сюды ўваход шырокі,**
**Назад няма хады.**
**Марудным нудным крокам**
**Пацягнуцца гады.**

Жыццё тут рэгламентавана і ўпарадкавана самым скрупулёзным чынам. Нягледзячы на гэта, яно мае выразна выяўлены абсурдны характар. Жыхары замка дзеляцца на катаў і іх ахвяр. Паэт адзначае назат іх роднасць:

**Мы з ім адной эпохі дзеці—**
**Ён —выканаўца, я —аб'ект.**
**(«Рукавіца»).**

Абсурд нараджаў страх і адчужэнне паміж людзьмі. Закон ГУЛАГа «...вучыў не падстаўляць пляча, калі сагнецца твой зямляк суседні...» (верш «Дыялог»).

Дарэчы сказаць, такія творы, як «Замак» Ф. Кафкі, «Мы» Я. Замяціна, «Чырвоная зорка» А. Багданава, «Сабачае сэрца» М. Булгакава, «1984» Д. Оруэла і інш., прысвечаныя паказу рэжыму таталітарнай улады. Цікава было б параўнаць з такімі, як «Споведзь» Л. Геніюш. «У кіпцюрох ГПУ» Ф. Аляхновіча, аповесці С. Грахоўскага, —рэалістычнымі па сваім стылі і метадзе, спісанымі з натуры. У гэтым жа радзе — новыя вершы А. Звонака. У аснове многіх з іх — рэальныя прататыпы, непрыдуманыя гісторыі, якія мелі месца ў жыцці. Адна з такіх непрыдуманых гісторый— «калымская быль» — верш «Лёшка Пеплаў «тэрарыст». За калючы дрот калымскага лагера трапляе шаснаццацігадовы юнак з тульскай вёскі. Трапляе, можна сказаць, ні за што. Той дробны скандал, які ён учыніў у сельсавеце, не варты быў такога суровага пакарання. І вось — «замак».

**Неяк раз паклікаў Лёшку**
**Канваір (прасцей — прахвост):**
**Ты збяры марошкі трошкі,**
**Нельга мне пакінуць пост.**

**Даў бляшанку з-пад**
**кансервы:**
**Чымчыкуй смялей, мілок!**
**А праз дваццаць крокаў,**
**сцерва,**
**Даў чаргу па ім знарок...**

Аказваецца, канваіру загадалі гэта зрабіць «для падтрымкі дысцыпліны». Сістэма нібыта дэманструе, выстаўляе напаказ сваю абсурдную, алагічную сутнасць. Будзённасць і тая звычайнасць форм і абставін, у якіх адбываецца гэта трагедыя, толькі павялічвае яе жах.

Абсурдная сутнасць сістэмы яскрава выяўляе сябе ў вершы «Ван-Сюй-Чан». Яго герой —кітаец па нацыянальнасці — увогуле не ведае, за што ён трапіў за калючы дрот. Яшчэ адзін крок — і можа напаткаць поўнае расчараванне ў жыцці, распад чалавечага «я».

Дзе ж выйсце з гэтага тупіка? Як застацца чалавекам?

Але ж у гэтым свеце абсурду былі і сапраўдныя людзі. здольныя пры ўсёй жахлівасці і безнадзейнасці становішча захаваць у сабе чалавечнасць. Можа, самая першая думка, якая ўзнікла ў мяне, калі я чытаў гэтыя вершы, была думка пра чалавечую трываласць. Цяжка ў моры зла застацца чалавекам. Некаторым гэта ўдаецца. Успамінаецца Іван-уркаган з аднайменнага верша, які, рызыкуючы жыццём, правёў праз бурную вясновую Калыму жалезны караван з хлебам.

А вось мужная постаць капітана Канстанціна Касіцына. У зоне пратокі Лаперуза яго карабель з сямю тысячамі зэкаў на борце трапіў у японскія воды. Папражала затрыманне — і паступіў бесчалавечны загад патапіць карабель.

**Ёсць загад: не йсці на**
**затрыманне.**
**Цеплаход тапіць. Маліся, зэк!**
**Не пасмела воля капітана**
**Утапіць сем тысяч чалавек!..**

**Вось і возіць тачку ён**
**старанна**
**Праз калымскі доўгі-доўгі**
**штрэк!**
**(«Капітан»).**

Я не пачуў у вершах А. Звонака крыку адчаю. У яго моцная народная аснова, на якую ён абапіраецца, горкі і шчаслівы саюз з жыццём, шматстайныя душэўныя праявы якога, уключаючы гумар і іронію, знаходзім у вершах. Філасаф М. А. Бярдзяеў пісаў пра сябе: «Я не любил «жизни» прежде и больше «смысла», я «смысл» любил больше жизни, «дух» любил больше мира». А. Звонак так не сказаў бы. Яго ратуе любоў да жыцця, што адлюстравалася ў многіх вершах.

**Час — нібы млын, у**
**жорсткіх жорнах**
**Яму, што чхнуць, цябе**
**змалоць.**
**Дык цешся музыкай**
**мажорнай,**
**Што чорту лысаму назло.**

**Не склаў пад сопкай свае**
**косці,**
**Як безліч тых, чый згінуў**
**цень**
**Не пад крыжамі на пагосце,**
**А ў безмагільнай мерзлаце.**
**(«Вера»).**

Любоўю да жыцця дыхае цудоўная балада, якую аўтар назваў «Сагай аб каханні» і ў якой сцвярджаецца непераможнасць жыцця і неадольнасць кахання як адной з яго праяў. Аднак адсюль не вынікае, што беларускі паэт раўнадушны да пытання аб сэнсе жыцця. Не, яго хвалюе сучаснік, яго творчая пазіцыя і духоўная актыўнасць. Адзін з самых выдатных у гэтым сэнсе вершаў — «Шавец», які мае глыбока выяўлены асабовы характар.

Тэма часу — адна з цэнтральных у лірычным роздуме Звонака, у якім знайшла адбітак яго жыццёвая філасофія, глыбокае ўсведамленне каштоўнасцей чалавечага жыцця. Зразумела, паэт не ставіць на мэце даць адказы на ўсе пытанні, якія ставіць перад намі наша шматпакутная гісторыя апошніх шасці-сямі дзесяцігоддзяў. У лірычнага верша свае магчымасці, якія ён добра адчувае. Ён не звяртаецца да нейкіх дэфармавана-ўмоўных форм мастацкага абагульнення. Паэт цэніць набліжанасць формы да жыцця, па-майстэрску, нязмушана карыстаецца размоўнай гаворкай, дыялогам.

Між іншым, углядаючыся ў яго вершаваную «кладку» і асэнсоўваючы яе мастацкую своеасаблівасць, я, прызнаюся, чамусьці падумаў пра вядомую лысагорскую паэму. Угадваецца калі не адна рука, дык адна паэтычная школа. Вершы А. Звонака вызначаюцца канкрэтнасцю і прадметнасцю паэтычнай вобразнасці, выразнасцю псіхалагічнага малюнка. У гэтым каштоўнасці ўсяго лепшага, што ім зроблена.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ.**

**ВІНШУЕМ!**

**30 верасня спаўняецца 60 гадоў вядомаму беларускаму пісьменніку, вучонаму, народнаму дэпутату Беларусі Нілу Гілевічу. Лімаўцы ад усяго сэрца віншуюць Ніла Сымонавіча з юбілеем, зычаць яму доўгіх год жыцця, новых творчых поспехаў і далейшага пастаяннага супрацоўніцтва са штотыднёвікам.**

# МАЛІТВА ЗА ЗЯМЛЮ БАЦЬКОЎ

Пра паэта добра пісаць паэту: бяры яго ўсе ямбы, харэі, анапесты, амфібрахіі, расшыфроўвай вобразы, створаныя пры дапамозе гэтых «амфібрахіяў», і атрымаеш аб'ектыўны, арыгінальны партрэт аўтара. Мне пісаць пра паэта Ніла Гілевіча цяжка, не маю на тое прафесійнага права — працуем у розных жанрах. І калі я ўсё ж адважваюся на гэта, то толькі таму, што амаль трыццаць гадоў ведаю яго, як чалавека, блізкага мне па духу, па стаўленню да жыцця і літаратуры.

Мне здаецца, што гэта іменна яму М. Някрасаў сказаў запаветныя словы: «Паэтам можаш ты не быць, грамадзянінам быць павінен!» Гэтыя высокія словы сапраўды сталі запаветам, праграмай для Ніла Гілевіча на ўсё жыццё. Яго ўласны маніфест

**Люблю цябе, жыццё, любоўю кроўнай.**
**Я не нахлебнік твой. Я на зямлю**
**Не для таго прыйшоў, каб жменяй поўнай**
**Уцехі браць.. — Я аддаваць люблю**

з'яўляецца і паэтычным і грамадзянскім крэда, якому ён ніколі не здрадзіў.

Чаму мы так мала пішам і гаворым пра Ніла Гілевіча, як чалавека? Чаму мы так хутка забыліся, што ў шасцідзесятыя гады на яго першага была павешана каінава пячатка «нацыяналіста», які не заўважае, што краіна імкліва крочыць у камунізм, дзе будзе адна мова — камуністычная?..

Я добра памятаю яго палымяныя прамовы з усялякіх трыбун пра беларускую мову і літаратуру, пра нацыянальны характар. Я памятаю, як гэтым прамовам пляскала толькі адна трэць залы. А дзве трэці... Ого, якія страшныя праклёны сыпаліся на яго галаву са старонак афіцыйнага друку! Тым не менш, калі хто казаў яму, спачуваючы ці ўшчуваючы: «Хіба табе больш за ўсіх трэба?», ён уважліва выслухоўваў гэтыя спагады і ўшчуванні і спакойна адказваў: «Ага, больш за ўсіх».

Не ведаю, можа, і сёння не было б яшчэ і закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы, і Таварыства беларускай мовы, калі б не яго тыя раннія, безразважныя атакі супраць... «вялікай кітайскай сцяны». Зрэшты, не хачу перабольшваць. Былі б, бадай, і закон, і таварыства, але — не ўчора, і не сёння, а значна пазней. Ён раней за іншых пачаў біць у званы.

Хачу цяпер зразумець, адкуль тая апантанасць, якая мяжавала тады з самаахвярнасцю? Успомніце, якія часы былі, як дратавалі зверху за ўсё беларускае... Відаць, ад упартага сялянскага характару: ніхто за мяне маё жыта не пасее, таму хоць памру, але сваё жыта сам пасею. А, па-другое, відаць, памагла яму выстаяць яго... прафесія фалькларыста.

Кожнае лета падарожжы па раёнах, вёсках, хутарах з магнітафонам і блакнотам, сустрэчы з унікальнымі скарбатрымальніцамі беларускага фальклору. Ён акунуўся з галавой у такое нацыянальнае багацце, якое захапіла яго назаўсёды. Гэта стыхія ўвайшла ў яго на ўсё жыццё. Вось што падтрымлівала яго ўвесь час і што падтрымлівае зараз. Вось чаму яго паэзія такая народная. Вытокі! Шчаслівы бясконца той пісьменнік, творчасць якога мае такі глыбінны падмурак.

Здаецца мне, што іменна таму так струменіць у яго паэзіі гумар і сатыра — гэта ад народа, ад народнага аптымізму. Аднойчы ў раённым Доме культуры я чуў, як Ганна Рыжкова чытала яго замовы і «спаведзі». Гэта быў трыумф паэзіі і гумару. Кожны верш гледачы патрабавалі выконваць па два-тры разы.

Але я ўжо сказаў, што не маю права аналізаваць паэзію нашага шаноўнага юбіляра, хай гэта зробяць паэты альбо літаратурныя крытыкі. У чалавечай «іпастасі» я ведаю яго, можа, больш, чым іншыя.

... Добра памятаю той вечар, калі мы ўтрох — Васіль Быкаў, Генадзь Бураўкін і я прыйшлі да яго дадому і ўпрошвалі даць згоду... узначаліць Саюз пісьменнікаў. Колькі довадаў, разумных і неразумных, было намі прыведзена на карысць таго, што ён і толькі ён павінен кіраваць нашым пісьменніцкім хаўрусам. Ён адмаўляўся: «Чаму ж вы хочаце зрабіць з мяне адміністратара? Вы хочаце паставіць на мне і на маёй паэзіі крыж?!»

Прайшло шмат часу з таго незабыўнага вечара. Ніл Сымонавіч добра-такі накіраваўся і наваяваўся з нашым братам, перайшоў з кіраўнікоў у «палітыкі», стаў народным дэпутатам рэспублікі, узначаліў парламенцкую камісію. Можна па-рознаму ставіцца да яго кіраўніча-пісьменніцкай пасады. Ведаю, што сёй-той быў супраць яго як першага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Хіба ўсім дагодзіш, ды яшчэ ў такой капрызнай грамадзе, як наша? Але ж трэба прызнаць, што іменна ў гэты час пабудаваны выдатны пісьменніцкі закутак—«Іслач», што іменна ён зрабіў для пісьменнікаў вельмі і вельмі шмат — і каб нашыя кніжкі хутчэй выходзілі, і каб нашы жыллёвыя ўмовы былі лепшыя...

І ўсё ж я шкадую, што нам тады ўдалося заняволіць яго ў СП. Вядома, зрабіў ён там шмат. Але ж яшчэ больш ён... не напісаў вершаў, паэм, камедый. Мы адабралі ў паэзіі паэта Ніла Гілевіча амаль на дзесяць гадоў.

Але ён умудраўся пісаць нават у гэтыя свае «кіруючыя» гады — амаль кожны год новая кніжка. Сёй-той нават зайздросціў: выкарыстоўвае сваё службовае становішча! Але зайздроснікі не ведалі (ці, можа, не хацелі ведаць?), што Ніл Гілевіч выдаў 15 безганарарных кніжак. За нейкія кніжкі ён зусім не браў ганарара, а за некаторыя — пераводзіў у розныя фонды. Можа, пра гэта зайздроснікі і не хочуць успамінаць, таму што гэта прыклад у беларускай літаратуры — адзіны?

Шэсцьдзесят гадоў — гэта той парог, на якім можна на хвілінку прыпыніцца, азірнуцца назад і спытаць у самога сябе: а ці так жыў? Ці ўсё зрабіў, што мог? Ці тым займаўся? Некаторым з нас трохі боязна азірнуцца назад, а Ніл Сымонавіч можа гэта смела зрабіць: і так жыў, і тое рабіў.

... Здаецца мне, што ў паэзіі Ніла Гілевіча яшчэ далёка не ўсё адкрыта. Прыклад — гісторыя з песняй «Вы шуміце, бярозы». Гэта ж колькі гадоў былі схаваны ў сціплых радках і цудоўная мелодыя і глыбокая філасофія!..

У кожнага паэта ёсць свая галоўная, запаветная тэма. У Ніла Гілевіча гэта — Беларусь. Кожны яго верш, па сутнасці, гэта шчырае прызнанне ў любові, малітва за зямлю бацькоў, за Беларусь.

**Край мой беларускі, край!**
**Дай мне наглядзецца, дай!**
**На твае на пожні,**
**На лугі ды рэкі,**
**Каб у час апошні**
**Узяць з сабой навекі, —**
**Дай жа наглядзецца, дай!**

Хочацца верыць, што гэтая малітва будзе гучаць яшчэ доўга-доўга...

**Мікалай МАТУКОЎСКІ.**



## Нілу Гілевічу

**Капа гадоў як добры плён**
**Важкіх снапоў у перавяслах.**
**Здалёку людзям ён відзён,**
**Нажатак Ваш на пожні шчаснай.**

**Руплівец беларускай нівы,**
**Яе ратай, сявец і жнец,**
**Ад песні матчынай шчаслівы**
**І ўласнай новае тварэц.**

**Стары сусед Ваш — дзверы ў дзверы**
**Ўжо сорак год, як Вас спазнаў,**
**Удзячны шчыраму даверу,**
**Што выверыла сівізна.**

**У новае тысячагоддзе**
**Я Вам жадаю увайсці**
**Шчасліваму ў сваім народзе,**
**Жаданаму ў яго жыцці.**

**Васіль ВІТКА.**

**АДРАДЖЭННЕ**

# «Рунь», якая не выйшла

У другой палове 1918 года, калі амаль уся тэрыторыя Беларусі была акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, у Смаленску была зроблена спроба стварэння адной з першых савецкіх газет на беларускай мове. Ініцыятарамі гэтага сталі супрацоўнікі мясцовага аддзялення Белнацкома. Важная роля ў аб'яднанні ўсіх беларускіх сіл адводзілася друку. Між тым пяцітысячны тыраж «Дзянніцы», якая выходзіла ў Петраградзе, а потым у Маскве, практычна цалкам разыходзіўся ў сталіцы і на блізкіх чыгуначных станцыях. Беларускае насельніцтва Заходняй вобласці, бежанцы ў Смаленску, жыхары акупіраваных раёнаў па-ранейшаму востра мелі патрэбу ў газетах на роднай мове. Таму і ўзнікла задума газеты, што атрымала назву «Рунь».

Аб'ява пра выхад новага выдання ўпершыню была апублікавана ў № 163 (191) «Известий исполнительного комитета Советов Западной области» за 10 жніўня 1918 года. Але яшчэ да гэтай публікацыі супрацоўнікі выдавецкага аддзела правялі значную падрыхтоўчую працу. 20 ліпеня 1918 года кіраўнікам Беларускага нацыянальнага камісарыята ў Маскве быў накіраваны ліст, падпісаны супрацоўнікам аддзялення камісарыята ў Смаленску М. Немчыновічам: «При сем представляю счет на 1 1/2 месяца необходимой суммы для издания отделением газеты. Газета будет временно выходить только 2 раза в неделю в количестве 3000 экземпляров в каждый выпуск, причем по мере возможности будет увеличиваться как число выпусков в неделю, так и количество экземпляров. Первый выпуск будет разослан по уездам, волостям с приложением воззваний необходимости выписки ими нашей газеты. Газета будет носить название «Рунь» и выйдет сейчас же по получении средств. Причем прошу внести в смету корректора, так как в типографии не имеется корректора, знающего белорусский язык». У рахунку, які быў прыкладзены да ліста, падрабязна разглядаліся артыкулы выдаткаў.

Супрацоўнікі аддзела выдавецтва, друку і агітацыі Смаленскага аддзялення хадайнічалі перад аддзелам упраўлення Заходняй вобласці аб выдачы дазволу на выданне беларускай газеты. Аднак у адказе загадчыка аддзела Л. Рэкута, якое датавана 12 жніўня 1918 года, такога дазволу пакуль што няма. Замест гэтага ён напісаў, што калегія аддзела ўпраўлення Заходняй вобласці прапанавала кіраўнікам аддзялення камісарыята паведаміць, на падставе якіх пастаноў цэнтральных або мясцовых улад выданне арганізавана. «До получения от Вас подробных указаний по этому поводу, — гаварылася далей у пісьме, — издание газеты «Рунь» разрешено быть не может».

Неабходныя фармальнасці былі выкананы на наступны дзень пасля атрымання адказу з аддзела ўпраўлення Заходняй вобласці. Камісар Смаленскага аддзялення Белнацкома Замойскі паведаміў мясцоваму кіраўніцтву, што ўзначальваемая ім установа дзейнічае на законных падставах і адкрыта з дазволу Камісарыята па справах нацыянальнасцей. У пісьме камісар указваў і адрас Беларускага нацыянальнага камісарыята ў Маскве.

Інфармацыя ў друку аб выхадзе новай беларускай газеты «Рунь» з вялікай цікавасцю была сустрэта насельніцтвам гарадоў і сёлаў Заходняй вобласці. Вось што пісаў з суседняй Віцебскай губерні ў Смаленскае аддзяленне старшыня камітэта вясковай беднаты хутара «Далібор» Збончанка: «Дорогие товарищи! В глухом уголке белорусского края существует бесплатная народная читальня. Средств для выписки газет нет. Нужда велика. Не откажите в даровой высылке газеты «Рунь», будем очень благодарны». Прыслаў у аддзяленне Белнацкома пісьмо і старшыня Рослаўльскай мужчынскай гімназіі А. Нілендэр, які, нягледзячы на тое, што ў ягоным павеце выходзілі дзве мясцовыя газеты — «Известия Рославльского Совдепа» і «Рославльский коммунист» — хацеў падпісацца і на беларускае выданне. Ён пісаў: «В «Известиях исполнительного комитета» есть объявление о белорусской газете «Рунь», но цены не указано. Желая ознакомиться с этой газетой и получать ее, ...прошу выслать вышедшие номера наложенным платежом и указать приблизительную цену».

На жаль, газета «Рунь» так і не пабачыла свету. Узніклі цяжкасці з вырашэннем фінансавых пытанняў, якія цалкам залежалі ад Беларускага нацыянальнага камітэта ў Маскве. Да таго ж пачатак вызвалення ўсходніх раёнаў, а потым і ўсёй тэрыторыі Беларусі ад нямецкіх войск ставіў на парадак дня стварэнне савецкай газеты на роднай мове ў Мінску. Пра гэта пісала і смаленская газета «Западная коммуна»: «В Минск, где уже образовалась белорусская коммунистическая секция, переходят в недалеком будущем все петроградские коммунистические белорусские организации, переносится партийная культурно-просветительная и издательская деятельность. С перенесением в Минск «Чырвонага шляха», «Беларускай крыніцы» и пр. и переездом литературных сил там предполагается выпуск белорусской коммунистической газеты».

**Пятро ДАРАШЧОНАК.**



ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ | The Society of the Byelorussians of the World

# БАЦЬКАЎШЧЫНА

1991

## Вуліцы— імя Максіма

Мы, удзельнікі круіза на цеплаходзе «Леанід Собінаў», арганізаванага Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына» дзеля ўшанавання сотых угодкаў з дня нараджэння Максіма Багдановіча, звяртаемся ў юбілейны камітэт, а таксама ў гарвыканком г. Мінска з прапановай перайменаваць цяперашнюю вуліцу Максіма Горкага ў вуліцу імя Максіма Багдановіча. Нашае меркаванне грунтуецца на тым, што менавіта тут пачыналася жыццё будучага класіка беларускай літаратуры. І толькі таму, што на працягу некалькіх паслярэвалюцыйных дзесяцігоддзяў яго творчасць замоўчвалася, а то і шэльмавалася, склалася такая ненармальная, нават абразлівая ў дачыненні да памяці нашага паэта сітуацыя. Выявілася тут і ўздзеянне генерыраванай з Цэнтра ідэалогіі самаплюйства, палітыкі празмернага і неапраўданага ўшанавання некалькіх агульных для ўсяго Саюза імён. Сярод іх, як ні шкада, апынулася імя таленавітага рускага пісьменніка Максіма Горкага. Гэта добра зразумелі яго землякі, вярнуўшы свайму гораду спрадвечную назву Ніжні Ноўгарад. Там прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады і Максіма Багдановіча, але няма ў Ніжнім Ноўгарадзе ніводнага месца, названага ў яго гонар. Ці будзе гэта зроблена—найперш справа саміх ніжагародцаў. Мы ж, беларусы, хочучы быць культурным народам, абавязаны ў юбілейны год вярнуць гістарычную справядлівасць — назваць вуліцу, на якой нарадзіўся і жыў Максім Багдановіч, яго імем.

Прынята на агульным сходзе ўдзельнікаў вандроўкі ў складзе 180 чалавек на цеплаходзе «Леанід Собінаў».

2 верасня 1991 года.



М. Дудчыц.

## Адгукаюцца добрыя людзі

Чытачы, мабыць, памятаюць зварот Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» да мастакоў падарыць творы ці беларускаму прадстаўніцтву пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, ці культурна-грамадскаму цэнтру «Полацак» у Кліўлендзе як найбольш прадстаўнічаму асяродку беларусаў на эміграцыі.

Першымі на наш покліч адгукнуліся нашчадкі мастака Міколы Дудчыца — сын Уладзімір і ўнучка Людміла.

Кароткая даведка: Уладзімір Мікалаевіч працуе дацэнтам кафедры заалогіі (раней узначальваў яе) у Мінскім дзяржаўным педінстытуце імя Горкага, а Людміла Уладзіміраўна — старшым навуковым супрацоўнікам аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР. Яна аўтар манаграфіі «Браслаўскае паазер'е ў IX—XIV стагоддзях» і заканчвае новую кнігу пра беларускае адзенне старажытнага часу.

Пра іх можна было б сказаць шмат добрых слоў як пра людзей па-сапраўднаму інтэлігентных, прынцыповых, шчырых і чалавечных, высокакваліфікаваных у сваіх галінах спецыялістах. Ды самі яны ўвогуле прасілі пра сябе і не згадваць, а пісаць толькі пра тое, што нас звяло, — творчасць іх бацькі і дзеда.

Прызнаюся, дасюль пра мастака Міколу Дудчыца меў досыць цьмянае ўяўленне і, як ні сорамна, не ведаў, што нарадзіўся ён у старажытнай Любчы, усяго за некалькі кіламетраў ад майго роднага Пабрэззя. Ды ў гэтым няведанні, бадай, не толькі мая асабістая віна, але і выдаткі нашага навучання, яго незарыентаванасці на пазнанне роднага краю і выхаванне любові да яго. Нам, ураджэнцам старажытнай Наваградчыны, напрыклад, на ўроках гісторыі ні разу не сказалі, што цяперашні досыць занядбаны раённы горад калісь быў сталіцай адной з самых магутных еўрапейскіх дзяржаў, а на месцы суседняй з намі вёскі Лаўрышава размяшчаўся адзін з самых значных цэнтраў праваслаўнай рэлігіі, а заадно і старажытнай беларускай культуры. Пра ўсё гэта ведаць лічылася не толькі неабавязковым, але і непатрэбным...

Мікола Дудчыц нарадзіўся і гадаваўся ў сялянскай сям'і, але куды больш, чым да касы і плуга, цягнула яго маляваць. Меў прыроджаны талент і ўжо ў чатырнаццаць гадоў удзельнічаў у рэгіянальнай выставе ў Наваградку. Вучыўся ў школе ў Троках, у Наваградскім павятовым вучылішчы, а потым у Пецярбурзе ў школе Таварыства заахвочвання мастацтваў, дзе дырэктарам быў М. К. Рэрых, а выкладчыкамі іншыя вядомая мастакі. Прабіцца ў навуку яму паспрыяў мецэнат, навагрядскі чыноўнік Бух.

Вучобу перапыніла імперыялістычная вайна. А потым была рэвалюцыя, вялікае грамадзянскае супрацьстаянне, паход на Варшаву на баку Чырвонай Арміі. Тое непадрыхтаванае наступленне, як вядома, захлынулася, часць, у якой служыў камандзірам былы афіцэр царскай арміі Мікола Дудчыц, вымушана была скласці зброю і інтэрніравацца ва Усходняй Прусіі. У палоне ледзь выжыў, ці не найперш дзякуючы здольнасці маляваць, што давала магчымасць здабыць кавалак хлеба на пражыццё.

Вярнуўся на Бацькаўшчыну толькі ў 1922 годзе з цяжарам перажытага, якое спатольвалася гаючым дакрананнем да найбольш блізкага, роднага, свайго. Наймацней вабіла да сябе прырода: зімой і ўлетку, восенню і вясной. Пакінуў мастак для нашчадкаў і краявіды старога Менску — усё тое, што ўшчэнт пазней было разбурана вайной і «мірнымі» пераўтварэннямі жыцця. Працаваў мастак інтэнсіўна, што дало магчымасць узяць актыўны ўдзел у Першай Усебеларускай мастацкай выставе ў 1925 годзе.

Яго неяк нібыта абышлі вельмі неспрыяльныя для нашага мастацтва трыццатыя гады з абавязковым увасабленнем правадыроў, перадавікоў вытворчасці і г. д. Трэба быць удзячным лёсу і за тое, што абмінулі сталінскія рэпрэсіі, хоць, зразумела, з такой біяграфіяй даводзілася ўвесь час быць напагатове...

А потым вайна, акупіраваны немцамі Мінск.

Чытачы «ЛіМа», мабыць, запомнілі цікавую гаворку Юрыя Хадыкі са старшынёй Беларуска-Амерыканскага Задзіночання, спадаром Антонам Шукелойцем, дзе той згадвае пра трывожную атмасферу Мінска ваеннага часу, свае сустрэчы на кватэры ў Дудчыца, якія, дарэчы, адкладаліся ў памяці і ва Уладзіміра, сына мастака. У тых згадках — захапленне самаахвярнасцю працы творцы, яго здольнасцю ў самых неспрыяльных умовах аддаваць сябе «чыстай» красе. Толькі так і можна сцвердзіць сябе ў мастацтве. Колькі забылася і назаўсёды знікла з таго, што з халоднай душою рабілася на патрэбу дня! А глядзіш на карціны Міколы Дудчыца — і сёння нас апякае гарачая чырвань рабінавых гронак, полымя падпаленага восеньскай лістотаю лесу, шчыміць у тузе сэрца ад зжатай сярпамі нівы...

Мікола Дудчыц неаднойчы ўдзельнічаў ва ўсесаюзных і сусветнных выставах, меў пры жыцці персанальныя выставы ў 1935, 1954 і 1967 гадах. Памёр у 1980 годзе.

Наша задача, каб мастацтва, якое абуджае ў чалавеку чалавечае, засцерагае нашы душы ад змізарнення і жорсткасці, ведалі сучаснікі. Згуртаванне «Бацькаўшчына» пастараецца зрабіць усё дзеля гэтага належнае.

А пакуль што шчырая ўдзячнасць Людміле і Уладзіміру Дудчыцам, ад сябе і нашых далёкіх суродзічаў, якія і там, у далёкай Амерыцы, свята шануюць тое, у чым нязмушана і таленавіта ўвасобілася душа народа. Хочацца спадзявацца, што нашчадкі мастака Дудчыца будуць мець магчымасць на свае вочы пераканацца ў гэтым.

Калі ж яшчэ хто з мастакоў ці іх нашчадкаў пажадае далучыцца да дабрачыннай акцыі, дык просьба паведаміць па тэл. 27-32-38 у «Бацькаўшчыну» ці асабіста мне на кватэру 37-91-87.

**Яўген ЛЕЦКА.**
**Старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына»**

## АД БОГА, АД СЭРЦА

З уражанняў мінулага лета— адно з самых кранальных ад сустрэчы з беларускімі святарамі-пратэстантамі Якубам і Юркам Рапецкімі. Прозвішча, спадзяюся, знаёмае тым, хто ўзрошчаны ідэяй нацыянальнага Адраджэння, цікавіцца беларускай дыяспарай. Яшчэ тады, калі напускаўся густы туман на ўсё, што рабіла добрага наша свядомая эміграцыя, праз калючыя заслоны пранікалі да нас асобнікі кнігі Юркі Рапецкага «Новае жыцьцё ў Хрысьце», выдадзенай у Канадзе старым, праўдзіва беларускім правапісам...

І вось сустрэча з Рапецкімі ў малітоўным пратэстанцкім Доме, што на праспекце Пушкіна ў Менску. Вернікаў стольні, колькі здолела змясціць прасторная зала. Са шчырым і пранікнёным словам першым прамаўляў Якуб Рапецкі, які пакінуў Беларусь у час ваеннага ліхалецця. Ці трэба казаць, што адчувае чалавек на схіле гадоў у час сустрэчы з Бацькаўшчынай пасля доўгай і да нядаўна безнадзейнай росстані?!

Юрка, які пакінуў Менск малым, выступаў на вечарыне ў дзвюх ролях—прапаведніка і перакладчыка з англійскай мовы. Добра ведаю, бо давялося спазнаць у маладосці і такую долю, як нялёгка на працягу некалькіх гадзін трымацца на людзях, імгненна пракручваць у галаве чужы тэкст і даносіць яго да аўдыторыі. Са сваімі абавязкамі наш зямляк спраўляўся выдатна, чаму спрыяла, вядома, і бездакорнае веданне дзвюх моў — англійскай і сваёй роднай-першароднай, якую ён ацаліў у сваёй душы і на далёкай чужыне. Перш за ўсё дзякуючы сваёй сям'і, роднаму бацьку і маці, ды яшчэ веры, што няма на зямлі горшых і лепшых народаў і моў, запаведзі, што ўсе людзі звяртаюцца да Бога на сваёй роднай мове...

Дык калі ж і народ беларускі, жывучы ў сябе на Бацькаўшчыне, усвядоміць такія простыя і зразумелыя для кожнага цывілізаванага чалавека ісціны, калі мы дачакаемся таго, калі сваё і чужое спалучыцца ў натуральным, а не штучна-прымусовым яднанні, калі сапраўдная культура прыйдзе на нашу зямлю, зацвіце кветкай у нашых спакутаваных і знявечаных душах?!

Да казанняў святароў хораша дапасаваліся спевы дзвюх надзвычай прывабных канадскіх спявачак-блізнятак, воблікамі і ўборамі, нібы дзве кроплі вады, падобных адна на адну. Яны, уявіце, шаноўныя чытачы, з мілым англійскім акцэнтам таксама спявалі па-беларуску. Справа ў тым, што пару гадоў назад у іх пратэстанцкую абшчыну далучылася сям'я перасяленцаў з-пад Гомеля, ад якіх канадцы завучылі словы і перанялі манеру выканання.

Гэты нечаканы наплыў беларускасці ў малітоўным Доме людзі ўспрынялі натуральна, з захапленнем, многія нават плакалі ад замілавання, а пасля сканчэння службы роем абкружылі нашых землякоў з роспытамі. І што цікава— родная мова, якая дасюль нясмела драмала ў людзях, — абудзілася, сталася паўнацэннай! І калі мне пасля гэтага нехта кажа, што нібыта самі вернікі супраць беларускай мовы ў богаслужэнні, дык я ўспрымаю гэта як недарэчны водгук учарашняга дня, своеасаблівую праяву бальшавіцкай прапаганды, якая «брала» чалавека за горла і патрабавала аднназначнага адказу. Але ж браць за горла і прамаўляць для душы— справы зусім розныя і вынікі, адпаведна, таксама.

Ці трэба казаць, што вандроўка, якую зрабілі святары з Канады па Беларусі, мела не толькі рэлігійнае, але і свецкае значэнне, як істотны чыннік нашага нацыянальнага Адраджэння. Дый неадлучнае яно — свядомаснае і духоўнае ў цэласным чалавеку! І, напэўна, сваю патрыятычную свядомасць мы арганічна і глыбока здолеем адрадзіць толькі разам з верай у высокія агульначалавечыя ідэалы, у спалучанасці з тым, у што верылі і чаму пакланяліся нашы продкі сто і тысячу гадоў таму назад.

Побыт гасцей на Беларусі завяршыўся вечарынай у Доме літаратара, арганізаванай у іх гонар Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына». На жаль, шаноўны спадар Якуб

НАШЫ ГОСЦІ З АМЕРЫКІ...

# «...ЛЯЦЕЦЬ СЮДЫ НА КРЫЛАХ»

З 29 ліпеня па 13 жніўня ў Беларусі па запрашэнні Згуртавання «Бацькаўшчына» знаходзілася група нашых суайчыннікаў са Злучаных Штатаў Амерыкі. Узначальваў групу адзін з заснавальнікаў беларускага грамадска-культурнага цэнтра «Полацак» (штат Агайо) Сяргей Карніловіч. Разам з ім на зямлю сваіх продкаў прыехалі яго паплечнікі па беларускай справе ў «Полацаку» Міхась Мітраховіч з сынам Андрэем, Марыя Лягуш, Соф'я Шымчык, Ева Яраховіч, Тацццяна Дубаневіч, а таксама Янка Азарка (старшыня Беларуска-Амерыканскага Задзіночання штата Нью-Джэрсі) і Адольф Субота.

Шчыра кажучы, прыезду нашых гасцей мы чакалі значна раней, ды што зробіш, калі «святая таямніца» афармлення візы забірае процьму часу. Таямніца — бо як лагічна растлумачыць, што адны ўдзельнікі групы атрымалі візы адразу, а іншыя (Сяргей Карніловіч, Ева Яраховіч, напрыклад) — толькі праз паўтара месяца, літаральна за 2 дні да адлёту з Нью-Ёрка?..

Сябры Згуртавання «Бацькаўшчына» Яўген Лецка, Тамара Забаўская, Дзмітрый Лупач, Тацццяна Мархель, Віктар Сіўчык, Ганна Сурмач, Мікола Чырскі паклапаціліся аб тым, каб наведванне Беларусі было для нашых заакіянскіх суродзічаў прыемным, карысным і пазнавальным. Госці агледзелі культурна-гістарычныя помнікі нашай сталіцы, пабывалі ў Курапатах, Хатыні, з'ездзілі ў Вязынку, Мікалаеўшчыну, Нясвіж, Жыровічы, мелі сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, выдаўцамі, мастакамі, танцорамі і спевакамі. А кульмінацыяй візіту сталі спатканні з малой радзімай, з блізкімі і дарагімі людзьмі. Спатканні, якіх чакалі па 40—50 гадоў...

І трэба было мець каменнае сэрца, каб спакойна глядзець, як пазнавалі адно аднаго, як падалі ў абдымкі, зваліўшыся слязьмі, Тацццяна Дубаневіч і яе родны брат. Жорсткі лёс распарадзіўся так, што яны не бачыліся 52 гады...

Якія ўражанні засталіся ў нашых гасцей? Што прынесла ім гэтае спатканне з роднай зямлёю? Тут самы час даць слова нашым амерыканскім суайчыннікам.

**Сяргей КАРНІЛОВІЧ:** Паколькі я не першы раз прыязджаю на Беларусь, то мае пачуцці, відаць, не такія вострыя, як у маіх сяброў. Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» апекавалася намі вельмі добра. Мы мелі ўсё, што жадалі. Не спадзяваліся нават на такі прыём. Вы ведаеце, калі мы прыляцелі не лётнішча ў Менску, то я меў надзею ўбачыць аднаго-двух знаёмых, а сустракала нас ладная грамада людзей.

**У сябе ў «Полацаку» мы цяпер плануем пабудаваць новы будынак Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, а таксама зрабіць дэкаратыўна-мастацкае афармленне інтэр'ера самога грамадска-культурнага цэнтра. Гэта запатрабуе немалых грашовых сродкаў, якія, вядома, хочацца больш актыўна накіроўваць на аказанне дапамогі ахвярам Чарнобыля. У будучым маем намер устанавіць 2 стыпендыі для маладых людзей з Беларусі, якія змогуць атрымаць адукацыю ў навучальных установах ЗША...**

Яшчэ раз шчыра дзякую за такую сустрэчу, за клопат пра нас, а ў парадку пажадання хачу сказаць вось пра што. Было б вельмі добра, калі б Згуртаванне «Бацькаўшчына» магло спрыяльна ўплываць на працэс афармлення выязных папер і віз. Гэтым разам сталася так, што мы некалькі разоў былі вымушаны пераносіць і адкладваць нашу паездку па той прычыне, што некаторыя з нас доўгі час не маглі атрымаць візу.

**Янка АЗАРКА:** Я даўно марыў наведаць Беларусь, і вось прыйшоў час, калі мы атрымалі запрашэнне ад арганізацыі «Бацькаўшчына», і мая мара збылася. Мы пабывалі ў музеях, на радзіме Я. Купалы, Я. Коласа і шчыра радаваліся, што маем такую магчымасць. Нідзе я не бачыў такіх прыгожых краявідаў, як у Вязынцы і Мікалаеўшчыне. Усе мы расчулены і глыбока кранутыя той цеплынёй і шчырасцю, з якой нас прымалі прадстаўнікі «Бацькаўшчыны».

**Я шчаслівы, што ўдалося з'ездзіць ў Баранавічы і пабачыцца з маімі сёстрамі і пляменнікамі. Для іх гэта была прыемная неспадзяванасць. Баранавічы значна выраслі за гэтыя дзесяцігоддзі. Я пазнаў толькі будынак банка і станцыю «Палеская», якія былі яшчэ пры палянах...**

**Я спадзяюся, што тая лучнасць, якая нараджаецца паміж замежнай эміграцыяй і Беларуссю, атрымае новае развіццё. Такія сустрэчы вельмі важныя. Яны дадаюць натхнення працаваць на беларускую справу, ажыўляюць наш рух. І я жадаю Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына» плёну і поспехаў у вашай высакароднай гуманістычнай справе.**

**Ева ЯРАХОВІЧ:** Я 48 год не была на Беларусі, і, паверце, сёння я адчуваю сябе так, нібы нанова нарадзілася. Вы не можаце ўявіць, якія пачуцці мяне апанавалі, калі я была на Палессі, на сваёй радзіме, на тым месцы, дзе некалі стаяла наша хата... Не перадаць майго шчасця ад сустрэчы з маімі дваюраднымі сёстрамі, пляменнікамі, якіх я не думала-не гадала спаткаць. Калі я сюды ехала, я не ведала нават, што яны ёсць у Голым Бары, на хутары, дзе я некалі жыла. Гэта ж трэба, мы прыехалі ў вёску і я пытаюся ў першай жанчынкі на вуліцы: «Ці вы ведаеце тут Яраховічаў?» А аказалася, што яна — мая дваюрадная сястра!.. Божа! У мяне сэрца разрывалася!.. Вы ведаеце, для мяне ўсё гэта, як сон... Ад радасці плакаць хочацца! І шкада, шкада мне аднавяскоўцаў! Божа, каб я магла дапамагчы, усё аддала б ім, усё...

**Тацццяна ДУБАНЕВІЧ:** Калі наш самалёт прызямліўся на лётнішчы ў Менску, ад хвалявання ў мяне дрыжалі і рукі і ногі. Я перапоўнена ўражаннямі ад спаткання з Беларуссю, з маім братам, з вамі ўсімі. Мы з вамі як адна сям'я, хоць раней ніколі не бачыліся. Я вельмі ўдзячна Сяргею Карніловічу, які сабраў нас на гэтую паездку. Мне вельмі хочацца, каб і вашы людзі прыязджалі да нас у Кліўленд і мы маглі іх прыняць так, як гэта зрабілі вы.

**Марыя ЛЯГУШ:** Не магу нарадавацца, што я пабачылася з роднай старонкай. Цяжка развітацца з вамі, але я спадзяюся, што мы яшчэ пабачымся. Шчыра дзякую за гэтую сустрэчу!

**Зося ШЫМЧЫК:** Я ўдзячная лёсу за тое, што змагла прыехаць сюды, пабачыцца з роднымі, паглядзець на Беларусь. Вельмі спадабаўся Менск. Прыгожы сучасны горад. Запомняцца і мянчане, добрыя, прыязныя...

**Міхась МІТРАХОВІЧ:** Гэта была вельмі цікавая і прыемная паездка. Не магу знайсці слоў, каб выказаць удзячнасць за ўсё, што вы нам зрабілі. Спадзяюся гады праз два прыехаць яшчэ раз.

**Адольф СУБОТА:** Я вельмі ўзрушаны ад гэтай паездкі. Усё было наладжана вельмі добра. Мне спадабалася і тое, што я меў поўную свабоду, рабіў тое, што хацеў. Калі не падвядзе здароўе, то абавязкова прыеду сюды зноў.

**Андрэй МІТРАХОВІЧ:** Цяжка словамі апісаць мае пачуцці. Усё было цудоўна. Людзі тут добрыя, шчырыя. Я з цікавасцю даведаўся шмат новага пра зямлю маіх бацькоў, яе гісторыю і сучаснасць. Кранула мяне і тое, як вы захоўваеце памяць пра людзей, што загінулі ў час вайны з немцамі. Хочацца прыехаць да вас яшчэ раз...

**Леанід КАЗЫРА,**
**намеснік старшыні Рады**
**Згуртавання беларусаў**
**свету «Бацькаўшчына».**



Рапецкі на той час ужо адбыў са сваімі калегамі ў Канаду. Але і аднаго Юркі хапіла на тое, каб на працягу некалькіх гадзін трымаць увагу людзей, якіх на гэты раз хоць і не было пад завязку, але тыя, што сабраліся ў перадвыхадны спякотны дзень, былі па сапраўднаму зацікаўленымі слухачамі і адначасова ўдзельнікамі. Пытанні датычылі як самых розных праяў жыцця ў Канадзе, беларускай дыяспары, так і святарскай, выдавецка-літаратурнай і журналісцкай (Юрка Рапецкі вядзе па-беларуску перадачы на канадскім радыё) дзейнасці нашага госця.

Завяршаючы вечарыну, аўтар гэтых радкоў згадаў выказванне сусветна вядомага чэшскага кампазітара Бедржыха Сметаны пра тое, што словы, народжаныя ў сэрцы, і ў прах жыццё ўдыхаюць. Тым больш, калі словы гэтыя асвечваюцца верай у Бога. Няхай пра гэта толькі не забываюць святары на Беларусі, прадстаўнікі ўсіх канфесій, якія павінны служыць як Богу, так і роднаму народу.

**Яўген ЛЕЦКА.**

...З АЎСТРАЛІІ

# ПРАЗ АКІЯНЫ І ДЗЕСЯЦІГОДДЗІ

«Не верыцца, што я дома...» І мы маглі паверыць сямідзесяцігадоваму Рыгору Шэйпаку, які не быў **дома** пяцьдзесят адзін год. Нарадзіўся ён у вёсцы Ройшы на Гродзеншчыне. Воляю лёсу, традыцыйнага для людзей ваеннага пакалення, правёў сталае жыццё на эміграцыі — у далёкай Аўстраліі. Не трацячы ўсе гэтыя гады духоўнай сувязі з Радзімай, сп. Шэйпак прывітаў арганізацыю «Бацькаўшчыны» і, быўшы ў Мінску, сустрэўся з членамі ўправы Згуртавання.

— Там, на чужыне, — распавёў нам Рыгор Трахімавіч,—неабходнасць нацыянальнага яднання бясспрэчная сама па сабе. І мы часам аддавалі свае астатнія грошы, каб выдаць беларускую газету ці кнігу. У Мельбурне, скуль я прыехаў, жыве немалая колькасць беларусаў, адчынена беларуская царква, а таксама грамадскі дом. Там ёсць партрэты Купалы, Багдановіча, там адзначаюцца такія святы, як дзень 25 Сакавіка, гадавіна слуцкага паўстання і іншыя. Дружна жывуць беларускія суполкі і ў гарадах Сіднэі і Пэрце. Праз паўтара года, мяркуецца, адбудзецца з'езд аўстралійскіх беларусаў.

Толькі тады, калі мы будзем дружнымі і нацыянальна з'яднанымі, падкрэсліў наш госць, нас будуць за людзей лічыць. Але жыццё на іншым кантыненце дае яму пакуль падставы казаць, што ў свеце яшчэ мала ведаюць пра Беларусь, яе гісторыю, культуру, трагічны лёс. Так, сорак гадоў жывучы ў Аўстраліі, Р. Шэйпак толькі раз трапіў на канцэрт беларускага калектыву — ім аказаўся ансамбль «Крыжачок».

Характэрна, што самым сталым каналам культурнай інфармацыі для нашых землякоў з Аўстраліі па-ранейшаму застаюцца кнігі і газеты. Так, сп. Шэйпак набыў для сваёй бібліятэкі, у прыватнасці, старое выданне БелСЭ, Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Ён пастаянна выпісвае і чытае «ЛіМ» — па яго словах, газету праўдзівую і навуковую.

Што праўда, то праўда: падобныя ўнікальныя візіты дадому — праз кантыненты і дзесяцігоддзі, да якіх усё часцей спрычыняецца «Бацькаўшчына», прыносяць надзвычайнае эмацыянальнае ўзрушэнне. Такая дарога сваімі безаглядным і канцамі спалучае ў адной душы не толькі дзяцінства і старасць, а яшчэ і два полюсы чалавечай цывілізацыі.

Любі радзіму ў любую гадзіну! Нас цешыць, што землякі-беларусы не адракаюцца ад гэтай горкай любові.

**А. Ц.**

ЗБС «Бацькаўшчына» выказвае шчырую падзяку спадарам Якубу і Юрку Рапецкім, Васілю Даніловічу, Антону Даніловічу (Янку Золаку) за ахвяраванні на развіццё «Бацькаўшчыны».

# МОЙ РОДНЫ БРАТ—БЕЛАРУСІН

Паэзія беларускага паэта-эмігранта Янкі Золака, здаецца, не прэтэндуе на сюжэтна-кампазіцыйную вытанчанасць, тэматычную навізну і стылёвую філіграннасць. Але ёсць у слове паэта тая прастата, якая саграе душу сваёй шчырасцю, непасрэднасцю, даверлівасцю...

Летась у Кліўлендзе Янка Золак падараваў мне двухтомнік сваіх твораў. Пра што яны? Гэта вершы аб радзіме, аб яе сябрах і ворагах, гэта інтымная лірыка і пейзажныя замалёўкі, гэта пераклады з польскай, рускай, украінскай.

Для першага знаёмства прапаную ўвазе чытачоў «ЛіМа» некалькі твораў пакуль што невядомага на Беларусі паэта.

**Леанід КАЗЫРА.**

**Янка ЗОЛАК**

## Агонь душы

Агонь мае душы
ў прасторы
Ня згасьне сьвечкай васкавой.
Ён будзе ў радасьці і ў горы
Сьвяціць паходняй баявой.

Свой Край і люд, што
ў прымусе,
Агонь мае душы асьвеціць,
Пра долю роднай Беларусі
Ён разнясе па белым сьвеце.

І, дзе сьвятло яго пральлецца,
Мой родны брат—Беларусін
Ад сну цяжкога атрапнецца,
І—што ён варт—пакажа ўсім.

7.XII.1942 г.

## Брату Беларусу

Прачынайся, мой брат,
мой нябога,
Прачынайся з адвечнага сну
Ды выходзь да шырокай дарогі
Сустракаць маладую вясну!

Станавіся пад сьцяг
вызваленьня,
Станавіся сьмялей і ня трусь;
Хай квітнее ў сваім
адраджэньні
Дарагая табе Беларусь!

Прачынайся! Свой голас
магутны
Загучэць па-свабоднаму змусь;
Па ўсім сьвеце няхай будзе
чутна,
Што жыве родны край—
Беларусь!

7.XII.1941 г.

## Крылатае сэрца

Як сонца ў зэніце,
Як зоры ў блакіце,
Як водарны вецер гаёў,—
Над роднай Краінай
Вітае няспынна
Крылатае сэрца маё.

Як гукі прадвесьня,
Як жніўная песьня,
Як срэбраны звон ручаёў,—
Сьмяецца, сьпявае
І горна рыдае
Крылатае сэрца маё.

Як пчолка, старанна
З палёў назьбіраны,
Нясе мёд да родных вульлёў,—
Так роднаму Краю
Дабро прыспарае
Крылатае сэрца маё.

Як сьвечка ў алтары,
Што шчырай ахвярай
Палае для Бога агнём,—
Для роднага Краю
Паволі згарае
Крылатае сэрца маё.

Калі-ж я ў чужыне
Спачну ў дамавіне,
Прыкрыты няроднай зямлёй,—
Свой Край не забудзе,
Вітаць над ім будзе
Крылатае сэрца маё.

I.IV.1951 г.
31.V.1954 г.

СТВОРЫМ ГІМН НАШАГА ЗГУРТАВАННЯ

## Беларускі кант

*Словы і музыка*
*Віктара ВОЙЦІКА.*

Не пакіне Бог нашу Беларусь!
Яна ў вяках
Адшукае свой шлях!

Годзе ўжо марна жыць
У пакорнай згодзе,
Крыўду сваю, як крыж,
Несці на плячах!

Люд свой збірай
Пад Айчыны вольны дах!
Вышэй уздымай
Бел-чырвона-белы сцяг! (2 разы)

Не пакіне Бог нашу Беларусь!



**НА МУЗЫЧНАЙ СЦЭНЕ**

# У пошуках прадмета для любові

«А народу ў зале мала-мала. Хоць і прэм'ера. —Дык, можа, гэта сведчанне элітарнасці спектакля? — Не думаю. — Значыць, людзі зусім адвярнуліся ад мастацтва... — Ну, не скажыце! Людзі — не адвярнуліся».

Гэта не «з размовы на аўтобусным прыпынку». Навошта хітраваць? Гэтую «размову» я прыдумала. Прыдумала, наслухаўшыся рэплік знаёмых і не знаёмых мне гледачоў новага спектакля Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР. Праўда, у дачыненні да публікі, што гуртавалася на правым флангу партэра ў той вечар, больш пасавала азначэнне «сведкі спектакля». Іх, дакладней, нас — знаўцаў музыкі, тэатра, крытыкаў — запрасілі быць сведкамі. Чаго іменна — правалу стваральнікаў спектакля, часовай няўдачы тэатра, прынцыповага дасягнення аўтараў і трыумфу трупы, — мы мусілі вырашыць самі. Каб потым, сабраўшыся ў гасцёўні СТД, на аснове сумарнага выніку сваіх спрэчак дамовіцца: палюбіць ці не палюбіць новую работу тэатра...

Цяпер — без іроніі. Прэм'еру «Калі заспявае певень» чакалі, пэўна, і тыя, хто яшчэ марыць пра цуд, здатны змяніць сённяшняе аблічча нашага тэатра музкамедыі, і тыя, хто на цуд не спадзяецца. Мастакоўскія магчымасці стваральнікаў спектакля — кожнага паасобку — быццам бы вядомыя ў музычных, тэатральных колах, усё ж не дазвалялі прагназіраваць вынік сатворчасці, бо кампазітар-песеннік А. Чыркун, драматург Г. Марчук, аўтар вершаў М. Федзюковіч, дырыжор С. Бурак, рэжысёр В. Катавіцкі ды мастак З. Марголін разам працавалі ўпершыню. Стварылі музычную камедыю па матывах беларускага фальклору. Сёння —і асабліва пасля абмеркавання, якое адбылося-такі за «круглым сталом»,— дэбютанты, відаць, і самі разумеюць: цуд у іх не атрымаўся.

Апынуўшыся «твар у твар» са спектаклем, рэпутацыя якога пачала складвацца зусім не з кампліментарных чутак, я адразу наважылася вышукваць на гэтым «твары» якую-небудзь сімпатыю — за што захацелася б спектаклю паспагадаць, *палюбіць яго, ахоўваць ад крытычных стрэлаў*. У час, калі парушана экалагічная гармонія, калі не толькі ў азонавым пласце *атмасферы, а і ў палях* добрай, станоўчай энергіі з'яўляюцца новыя «дзіркі», можа, лепш увогуле не турбаваць паветра рэзкімі крытычнымі словамі?..

Я замілавана ўглядалася ў работу сцэнографа, знаходзячы ў ёй матывы наіўнага жывапісу вясковых маляванак: лубочная яблыня са спакуслівымі «пладамі пазнання»; муляжы свінні ды каровы, грубавата-ружовай расфарбоўкі — ну, рыхтык кроў з малаком, гэткі вясковы сімвал здароўя! А гордая пастава бутафорскага каня (конь пана суддзі!), які ў нейкім сэнсе выканаў функцыю свайго далёкага траянскага папярэдніка...

Я знаёмілася з персанажамі, што абжывалі прастору вакол дзвюх стылізаваных хацінак-суседак, нібы злучаных у адно агульным дахам. Любяцца-кахаюцца суседскія дзеці — Кацярынка ды Паўлік. Якія яны маладыя, абаяльныя, наіўныя! У Кацярынкі бацькі заможныя, маці суровая. У Паўліка толькі бацька-бядак, які любіць зазірнуць разам з суседам да карчмара. А вось прыдуркаваты пан Таўкачык у бабскім капелюшы ды крацястых штанах: гэты заляцаецца да Кацярынкі, і памагчы яму бярэцца манах-прыблуда, ласы на курэй. Яшчэ адна прыдуркаватая персона — дачка карчмара Домна, саперніца Кацярынкі. Суддзя з жонкай таксама ўкручваюцца ў немудрагелісты сюжэт са шчаслівай традыцыйнай развязкай: вяселле, ды не адно!

Шчыра настроіўшыся на пошук у спектаклі прадмета для любові, я раптам адчула, што пад уплывам так званых аўдыёвізуальных уражанняў мае пошукі слізгаюць з вызначанага курсу ўбок і, мяняючы кірунак, вядуць да нярадасных знаходак. Прымітывізм як свядома абраны мастацкі стыль тут мяжуе з прымітывам. Тэмпарытм дзеяння нагадвае гучанне пласцінкі, што круціцца з удвая замаруджанай хуткасцю. Быццам усё ідзе па нотах, але парушаецца адчуванне часу, дэфармуецца інтанацыя. Узнікае, *скажу так, лабочны* гумарыстычны эфект, бо лубочнае прадстаўленне амаль вымушана жыць па законах псіхалагічнага *тэатра*.

Не пашчасціла мне ў пошуках. Да ўсяго шакіравала маўленне манаха: выканаўца ролі, цудоўны акцёр, здатны знайсці трапную моўна-інтанацыйную характарыстыку сваім героям і ў класічных аперэтах, і ў мюзіклах, тут раптам выдаў ці не пародыю на вядомага папанаўскага героя з «Брыльянтавай рукі», на яго неверагодную арфаэпію. Увогуле ў той вечар у залу шчодра сыпалася: «пішчотна», «если», «свэдкі»...

...Прайшоў спектакль. Адшумела яго цяжкае працяглае абгаварэнне. Пракруцілася магнітная стужка, узнаўляючы галасы ўдзельнікаў гаворкі — абураныя і не вельмі, сярдзітыя, перакананыя і не вельмі, «пішчотныя» і не вельмі... (Вось вам і доказ, што людзі ад мастацтва не адвярнуліся).

Кампазітар распавядаў пра намеры стварыць нацыянальны спектакль, набліжаны да фальклору, нібы ў працяг «Паўлінкі» Ю. Семянякі, «Несцеркі» Р. Суруса.

Акцёры гаварылі пра другаснасць у сюжэце новай рэчы, заснаванай на байках, пра сваё —нягледзячы ні на што — стаpанне абараніць гонар тэатра і адпрацаваць як мага лепш. Успаміналі, што перад кожным паказам «Паўлінкі» была тэкставая рэпетыцыя, што раней да беларускіх спектакляў у тэатры ставіліся сур'ёзна, а сёння інакш, хаця многія артысты ўпершыню працуюць у беларускамоўнай п'есе. Зрэшты, гэта ўнутраная справа акцёраў, якія самі прызнаюцца, што хутчэй можна недайграць, недаспяваць, а вось гаварыць на сцэне яны абавязаны бездакорна.

Лейтматывам гучала настальгія па забытай «Паўлінцы», якая магла б зрабіцца візітоўкай тэатра. Крытыкаў увогуле не парадавала перагуканне п'есы «Калі заспявае певень» з сюжэтнымі ходамі «Паўлінкі», тым больш, што стваральнікі «Пеўня» не здолелі зрабіць твор цікавейшы за Купалаў.

«Новы спектакль можа спарадзіць у публікі, даруйце, негатыўнае ўяўленне: маўляў, беларускае — значыць кепскае», —устрывожылася А. Саламаха. А доктар А. Сабалеўскі разважыў: «Да п'есы Марчука можа быць колькі заўгодна прэтэнзій. Паўплывалі на яе і Купала, і «Несцерка», і Чарот ды Далецкія, і Каганец. Драмадзельства ў п'есе адчуваецца, хоць аўтар можа пісаць і рэчы «чыстай вады». Разам з тым спектакль мае права быць у рэпертуары, зойме сваё месца. Тут ёсць добрае прачытанне самой п'есы, і рэжысёрам, і мастаком —адкрыта лубочнае, адкрыта гратэскавае. Вельмі значная работа ў С. Якавец (Кацярынка). Іншыя акцёры — В. Фаменка, К. Лосеў, В. Бажэнаў, А. Ранцанц, А. Кузьмін, Э. Крайнікава, — усе ігралі з энтузіязмам. з добрай доляй хуліганства».

Марнасць пытання «што лепей — старое ці новае?» даводзіла музыказнаўца Р. Аладава: «Хай сітуацыі будуць кананічныя, але мае быць сучасная ідэя. Сама п'еса не вымагала нейкай музычнай драматургіі. І тое, што атрымалася ў музыцы, — гэта ілюстрацыя, у якой ёсць удачы (фінал 1 акта, заключны шлягер). Эстэтыка музыкі на ўзроўні эстраднай песні 60-х гадоў. Аркестр глушыць салістаў. Не ўяўляю сабе ў культурным спектаклі такі «рэстаранны» аркестр. Спектакль няўдалы, хоць за тое-сёе можна было і зачапіцца ў добрым сэнсе: часам здавалася, што ёсць калектыў, здатны ўвасобіць беларускі твор...»

Больш катэгарычна выказаўся В. Каратай: «Не магу нават сказаць дзякуй за спробу—гэта не крок наперад і нават не таптанне на месцы. Музыка распадаецца на паасобныя кавалачкі, не вельмі яркія. П'еса распадаецца на рэпрызы, жарты... Самы яркі момант — сцэнаграфія, у якой ёсць адыход ад побытавага беларускага этнаграфізму. Акцёры працуюць кожны ў меру сваіх сіл. Але ёсць моўныя неахайнасці... У вялікім мастацтве апраўданняў не прымаецца!»

Апраўданні, вядома, розныя бываюць. І я не буду «пракручваць» зараз тое, што даводзілі самыя баявітыя стваральнікі спектакля, якія занялі не абарончую, а наступальную пазіцыю ў дачыненні да крытыкі. А вось на словах дырыжора С. Бурака ўвагу чытача затрымаю: «У аркестры жудаснае становішча. Музыкантаў сталых няма, уранні рэпеціруюць адны, увечары прыходзяць новыя. Штораз на спектаклі сядзіць у сярэднім 12 «разавікоў».

Гэта ўжо не эмоцыі ў абарону амбіцый. Гэта факты, ад якіх робіцца страшна.

А прадстаўнік Міністэрства культуры, якое хварэе за лёс спектакля, бо аплачвала п'есу і хадайнічала наконт яе пастаноўкі, тым часам скардзіўся на спантаннасць творчых кантактаў кампазітараў з драматургамі. І ўзважваў набыткі ды хібы спектакля: «З аднаго боку, новая пастаноўка кампенсавала недахоп беларускага рэпертуару, але гэта і крок назад, але і школа, «буквар» для артыстаў. З аднаго боку можам напісаць «мінусы», з другога — столькі ж «плюсаў».

Як жа тут не прычапіцца да слова і не заўважыць, што аднолькавая колькасць плюсаў ды мінусаў у суме дае **нуль!!!**

«Канечне, гэтым спектаклем мы не *раскрылі* ўсю *гаму па*чуццяў, што ёсць у найбагацейшай беларускай культуры. Беларуская культура — гэта не толькі *«дуля ды кабак»*. Але калі не ставіць нават такіх рэчаў, кампазітары ніколі не пойдуць у тэатр, у іх у фаворы застанецца лёгкадаступны песенны жанр. Трэба злучыць намаганні СТД, кампазітарскага ды пісьменніцкага саюзаў, калі мы *сапраўды* хочам падымаць культуру; шукаць сродкі, а не проста заклікаць: «Давайце мову!» А дарэчы: хоць бы хто з драматургаў, пісьменнікаў прыйшоў па сваёй ініцыятыве —глянуць на новую прэм'еру беларускіх аўтараў?»— гаварыў дырэктар тэатра С. Косцін.

«Спектакль няўдалы. А гледача трэба выхоўваць на лепшых узорах, інакш — мядзведжая паслуга беларускаму мастацтву, культуры, якая і без таго занепала!» — «Чаму маўчаць кампазітары? Чаму маўчаць крытыкі? Будзем шчырымі: іграць жа нам няма чаго!» — падавалі галасы акцёры.

Знайсці «прадмет для любові» для ўсіх удзельнікаў гаворкі аказалася няпростай задачай...

Пасля абмеркавання я сказала знаёмаму акцёру, засмучонаму застоем у тэатры, адсутнасцю матэрыялу для жывой творчай работы. «Ёсць такі матэрыял. Паводле яго можна зрабіць п'есу для вашага тэатра. Глянь «Запіскі Самсона Самасуя». Парайся з Валодзем Кур'янам: кампазітар з адчуваннем прыроды і законаў тэатра і з пачуццём гумару. Наконт вершаў пагавары з Дранько-Майсюком. Гэта, зразумела, толькі мая фантазія, прапанова экспромтам. Пошук — за вамі, за тэатрам...».

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

**ЗНАЁМСТВА**

# ТУТ ТВОРЧЫ ДУХ ЛУНАЕ...

Пакінуўшы сваё «рабочае месца», дзяўчаты пайшлі да ракі. І, як папрасіў фатограф, прыпыніліся на лесвіцы, што каскадам спускаецца з высокага берага. Як хораша, вольна дыхаецца ў запаведным кутку: велічныя дрэвы, спакойная Дзвіна, свяшчэнная Сафія! Высокім духам полацкага храма асвечана і творчая праца гэтых *маладых музыкантак...*

Ксенія Пагарэлая (на здымку злева)—салістка канцэртнай залы «Полацкі Сафійскі сабор». Скончыла Краснадарскае музвучылішча, затым—Маскоўскую кансерваторыю па класах фартэпіяна ды аргана. Даведаўшыся, што ў Полацку вызвалілася месца арганіста, паехала туды, да ўлюбёнага свайго інструмента.

Рэпеціруе К. Пагарэлая з раніцы або познім вечарам. Удзень храм адкрыты для турыстаў, і планам экскурсій прадугледжана іх знаёмства з арганам. Людзі ў Полацк прыязджаюць, бывае, з тых краёў, дзе ніколі не чулі «жывога» аргана. Ксенія сама падбірае для іх праграму — Бах, Гендэль, Букстэхудэ, Ліст,—каб не толькі пазнаёміць з інструментам, а і стымуляваць пазнанне сур'ёзнай музыкі.

Яна ахвотна гаворыць пра свой інструмент. Арган чэшскай фірмы «Рыгер Клос», сярэдняй велічыні; кожная з 3990 труб звязана з пультам, клавішамі, з арганнай памяццю, у якой выканаўца можа загадзя запраграмаваць пэўныя спалучэнні рэгістраў. Падабраныя такім чынам «колеравыя камбінацыі» ўключае ў належны момант, замоўлены салістам, яго-ны *памочнік*.

Арган называюць «нежаночым» інструментам не таму, лічыць Ксенія, што гранне на ім вымагае асаблівасцей мужчынскага інтэлекту ці эмацыянальнага ладу: проста арган вымагае вялікай аддачы фізічных сіл. У арганіста заняты ў літаральным сэнсе і рукі, і ногі. І вельмі важна, хто пад час канцэрта стаіць *побач з салістам*. Пераканальнасць выканання звязаная з пераменай фарбаў, рытму, пераключэннем рэгістраў, так што ад памочніка як своеасаблівага сааўтара арганіста залежыць шмат. Прынамсі, маляўнічасць гучання.

Ксеніі, як яна кажа, ніхто пакуль не асісціраваў лепей, чым Надзя...

Надзея Давідоўская—кампазітар, выкладчыца полацкай ДМШ. Сама мінчанка. Тры гады таму, скончыўшы кампазітарскае аддзяленне Беларускай кансерваторыі, папрасіла накіраваць яе на працу ў Полацк, бо хацела быць «бліжэй да аргана», вывучаць яго вобразны свет і тэхнічныя параметры. (Трэба ж: у Мінску для маладых кампазітараў такія магчымасці не створаны, хоць ёсць два канцэртныя арганы!).

Тут, у Полацку, Н. Давідоўская стварыла кампазіцыю для аргана «Блікі руху», праграму якой можна сфармуляваць так: усё ў самім чалавеку і вакол яго знаходзіцца ў руху—адчуванні, эмоцыі, думкі, учынкі, падзеі... Гэтую самабытную музычную імпрэсію ў выкананні К. Пагарэлай запісала і сёлета прадставіла ў эфіры Беларускае радыё.

У паслякастрычніцкай гісторыі беларускай музыкі гэта першы твор для «цара інструментаў». Напісаны выхаванкай БДК. Напісаны, можна сказаць, насуперак абмежаванаму стандарту выхавання. Далёка ад «музычнай сталіцы» — Мінска. Няўжо ж Мінск не пачуе ў хуткім часе гэты твор у жывым гучанні? Няўжо сярод афіш нашых гасцей не знойдзецца месца для абвесткі сольнага канцэрта маладой падзвіжніцы К. Пагарэлай? Пачакаем, што скажа новы філарманічны сезон.

...А пакуль Ксеню ды Надзю ведаюць толькі ў Полацку.

**С. ВЕТКА.**

Фота А. МАРЦІНКЕВІЧА.



# ...І знішчаны сад маленства

На схіле лета, відаць, у кожнага на душы крыху тужліва і самотліва. І не толькі таму, што спакваля адыходзяць радасныя, сонечныя дні. Хочаш таго ці не, а разам з імі адыходзіць яшчэ адзін кавалак твайго жыцця. Вядома, адлік звычайна вядзецца з пачатку новага студзеня, і ўсё ж, усё ж... А мо прычына самотлівасці і ў тым, што ўласны век тымчасова пераваліў на другую палову?

Так было, так ёсць і будзе заўсёды. Іншая справа, што літаратура не проста канстатуе тыя ці іншыя факты, а, узвысіўшыся над імі, сягае далей, задумваецца над сутнасцю і самога жыцця, і над месцам чалавека ў ім. Так бы мовіць, спасцігаючы агульначалавечыя і, я б дадаў, усёчасавыя матывы.

Апошнія, дарэчы, надзіва адчувальныя ў нізцы вершаў Р. Барадуліна («Полымя», № 8). Звычайна паэт сваёй чарговай публікацыі дае дакладную, вызначальную назву. Гэтым разам падборка безыменная, але аб'яднана адзінствам аўтарскай задумы. Яна пра тое ж — хуткаплыннасць паўсядзённасці і імгненне чалавечага існавання. Пра вечнае і агульначалавечае:

**А напачатку далёка да меж,**
**А напачатку дарога шырокая,**
**Дзе твой і век —**
**Маладою сарокаю:**
**Белага болей,**
**Чорнага менш.**

То напачатку, а пасля — «доўжыцца цень, карацее вярста. Пасека ў роздуме, гай у куродыме. І, асланяючы далечы родныя, толькі сарока бялее з куста...» І на гэтых паўстанках, што з кожным днём, нават з кожнай гадзінай карацеюць і карацеюць, такой звыклай і надзённа-неабходнай становіцца патрэба вяртання ў тваё ранейшае, колішняе — далёка-неабсяжнае і адначасна прывабліва-блізкае. Блізкае, бо пакуль што сама памяць учэпіста трымае рэаліі, выпадкі, людзей, пра якія аніяк нельга, недаравальна забываць.

Адзін з барадулінскіх вершаў і мае такую назву — «Вярнуцца б...»:

**Абнашчыць бы небам пагляд,**
**Ад звадаў усіх,**
**Ад шаленства**
**Назад бы вярнуцца**
**У сад маленства.**
**Вярнуцца б,**
**Вярнуцца, вярнуцца**
**І да маладога ствала**
**Шчакой прытуліцца,**
**Душой прыгарнуцца,**
**Адчуўшы павагу святла,**
**Якое прачнулася толькі,**
**Яшчэ не стаміла сябе**
**У вечнай сяўбе**
**Спіну не струдзіла да нолькі.**

Вяртаннем гэтым і жыве літаратура. Можа, сёння нават часцей, чым раней. Маю на ўвазе вяртанне не толькі ў часы гістарычныя, а і ў так званае нядаўняе мінулае. І пасляваеннае, і больш ранняе, даваеннае, якое перакрэслена ценем сталінізму і на якім ляжыць «цень крумкачовага крыла». Апошнія радкі—назва рамана Аркадзя Марціновіча, раздзелы з якога прадстаўлены таксама ў «Полымі». Між іншым, друкаваць раздзелы, часопісныя варыянты апошнім часам стала ці не модай. А мо ўсё ж гэта сведчанне таго, што рэдакцыі падобным чынам імкнуцца хоць неяк сэканоміць плошчу для іншых публікацый?

Зрэшты, чытачу, бадай, усё адно, якія на гэты конт меркаванні. Адно магу засведчыць (не ў крыўду будзе сказана аўтарам): наўрад ці па выхаду гэтых твораў асобнымі кнігамі чытач адразу кінецца іх перачытваць. Будзем шчырымі, у кожнага з нас вельмі і вельмі мала свабоднага часу, дай Божа паспець за перыёдыкай. Цяжка выкройваць гадзіну-другую, каб нанава перагортваць старонкі класікі. Я, зразумела, не пра тое, каб не спяшацца выпускаць кнігі пасля часопісных публікацый. Пра іншае кажу. Калі з рамана ці аповесці можна зрабіць «варыянт» і ад гэтага нічога не мяняецца, дык — навошта тады поўныя «варыянты»? Дзеля задавальнення аўтарскага самалюбства?

Прачытаўшы «Цень крумкачовага крыла», я, напрыклад, бачу ўжо, што аўтар здолеў схапіць самае істотнае і галоўнае ў характары героя Івана Яворскага, прасачыўшы свайго роду адысею аднаго з тысяч тых, хто, як раней мы казалі, рос і сталеў разам з савецкай уладай.

Вобраз Яворскага пераканаўчы, жыццёвы... Асабліва ў тым, што тычыцца маленства героя. Добра бачна, як паступова на фарміраванне характару падлетка клала адбітак негатыўнае, звязанае з гадамі сталінізму. Іван, як і многія іншыя, хоць да канца і не ўсведамляў гэтага, пастаянна сутыкаўся з несправядлівасцю, перажываў за блізкіх людзей, якіх арыштоўвалі, катавалі, а то і расстрэльвалі. Гэтыя перажыванні не праходзілі бясследна, яны ранілі душу, а калі падумаць лепей — рыхтавалі з чалавека звычайнага вінціка-выканаўцу, у далейшым няздатнага прымаць нейкія самастойныя рашэнні, гатовага адразу, не задумваючыся, кіравацца ў сваёй дзейнасці рашэннямі (правільней — воляй) тых, хто на службовай ці іншай лесвіцы стаіць вышэй.

Раман прынясе задавальненне тым, хто любіць прозу рэалістычна-цвярозую, традыцыйную ў сваіх пошуках.

Традыцыйнасці ніколі не выракаўся і В. Гардзей. Гэта бачна і па яго аповесці «Уратуй ад нячыстага» («Маладосць», № 8). Змешчаны, праўда, толькі пачатак, таму ў цэлым меркаваць аб творы ранавата. Адно відавочна: аўтар піша ў сатырычна-гумарыстычнай манеры. Традыцыйнасць і падсветка з «подковыркой». Дзеянне ж адбываецца ў заштатным гарадку раённага маштабу, дзе жывуць самыя розныя персанажы, ад вядомага біча, «качагара з вышэйшай адукацыяй» Веніяміна Рапейкі да народнага абранніка Паўла Канапацкага і службоўцаў вышэйшага рангу. А мо і наадварот: ад іх да гэтага ж самага Рапейкі. Сапраўды, ад перастаноўкі месцамі «сума» не мяняецца. Адно ўдакладню — «выбраннік» Канапацкі не нашага, а яшчэ застойнага часу, так што да В. Гардзея ніякіх прэтэнзій — да цяперашніх народных дэпутатаў ён нічога не мае. Калі ж сур'ёзна, дык абавязкова пазнаёмцеся з аповесцю «Уратуй ад нячыстага». Пасмяецеся ўдосталь... І над жыццём задумаецеся. У тым ліку і над сваім уласным. Жыццёвыя кладкі вельмі хісткія: глядзіш, знячэўку можаш і кульнуцца...

Хісткімі (ды толькі не заўсёды па прычыне, якая залежала ад іх саміх) аказаліся жыццёвыя кладкі пад нагамі Р. Крушыны, В. Адважнага, Х. Ільяшэвіча, У. Дудзіцкага, якія апынуліся за мяжой. Сёння яны для нас прадстаўнікі так званага беларускага замежжа. Адны — жывыя, другія — мёртвыя. Працягваецца вяртанне іх на радзіму... творамі («Полымя», публікацыя Б. Сачанкі)...

Беручы ў рукі «Беларускую мову і літаратуру ў школе», адразу адчуваеш, як часопіс пацяжэў. Прычына ў тым, што «ў сувязі з летнім рэжымам работы рэдакцыя падрыхтавала 7-ы і 8-ы нумары часопіса адным, здвоеным нумарам». Канечне, наўрад ці трэба ў далейшым практыкаваць падобнае, а вось наконт самога аб'ёму... А што, калі... Але-але, зрабіць неабходныя захады і пачаць выдаваць у далейшым «Беларускую мову і літаратуру...» штомесячна павялічаным да 18 аркушаў аб'ёмам? Як патрэбна гэта сёння, у час Адраджэння, калі школы літаральна задыхаюцца ад немагчымасці мець патрэбны матэрыял! У здвоеным нумары ўсё тое, што патрэбна сёння школе, патрэбна штодня. І публікацыі па міжпрадметных сувязях, і пытанні Адраджэння ў звязку з праблемамі школы, і штрыхі да творчага партрэта В. Зуёнка, і матэрыялы да 100-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча. Дык мо і праўда патурбуемся, каб аб'ём «Беларускай мовы і літаратуры...» павялічыўся?

Я сказаў пра багдановічаўскі юбілей. У «Полымі» да гэтай важнай падзеі ў нацыянальным культурным (ды і грамадскім) жыцці прымеркаваны артыкул-нарыс Г. Каханоўскага «І знікшы дзень вярнуўся» (пачатак публікацыі). Пісьменнік-краязнаўца падрабязна расказвае, як шукаў ён усім вядомую цяпер вёску Ракуцёўшчыну, дзе адпачываў М. Багдановіч улетку 1911 года. Поруч з гэтым расказам — аповяд пра цікавых людзей (на жаль, не ўсе ўжо жывуць), хто ведаў і Максіма, і старую Ракуцёўшчыну.

У «Беларусі» мяне прывабілі публіцыстычныя развагі Н. Маеўскай, І. Калюты, Н. Андрэевай, апавяданне І. Жарнасек «Моцнае сэрца», вершы Леаніда Галубовіча і Веры Галубовіч. Але, яго жонкі. Яна і раней выступала з вершамі, праўда, пад іншымі прозвішчамі. Многія гэта ведаюць, як і памятаюць дзявочае прозвішча аўтаркі. Пра задоўжанае маўчанне Вера сама гаворыць у невялічкім уступе да сваіх твораў.

На развароце — рэпрадукцыя адной з карцін А. Ісачова і слова пра яго В. Богуша. Не па віне рэдакцыі ўкладыш на шэрай паперы — уступленне ў рынак працягваецца. Выдаткі — безумоўныя. Няўжо будзе пакутаваць праз гэта толькі нацыянальная культура? Пытанне, ды каб жа толькі адно...

Зноў хочацца застацца сам-насам з паэзіяй... С. Панізнік, З. Дудзюк, А. Манкевіч, М. Цялега, Д. Бічэль-Загнетава, В. Зуёнак, П. Пруднікаў, урыўкі з паэмы В. Каратынскага «Таміла» ў перакладзе У. Мархеля — у «Полымі», «Маладосці»... А ў «Беларускай мове і літаратуры...»—вяртанне з небыцця А. Зязюлі, арыгінальнейшага паэта, чалавека надзвычай цікавага лёсу. Яго творы суправаджае артыкул Я. Саламевіча «Паэт-святар Андрэй Зязюля».

...Рука напаследак міжволі зноў цягнецца да «Полымя», а калі канкрэтней — да вершаў Р. Барадуліна. «Вярнуцца б...» — чую паэтаў голас. «Вярнуцца б...»—паўтараю ўслых за ім. Ды:

**Пад корань вымерз**
**Сад**
**Маленства.**
**Як і куды**
**Вярнуцца назад?**

Сад маленства, які вымерз... Вобраз канкрэтны і вобраз абагульнены. Прынамсі, такім успрымаецца ён мною, як, пэўна, і іншымі. Многае праходзіць незваротна, адыходзіць назаўсёды. Марныя і непатрэбныя намаганні, каб вяртаць яго. Адно нельга забываць: барані Божа забыцца на ўсё добрае, што было раней. Адмовіцца ад яго цалкам і беспаваротна. Адмаўляліся ж ужо, пазбаўляліся.

Толькі ці сталі праз тое шчаслівейшымі?..

**А. М.**

# Я хацеў спытаць у Вас, спадар Шыркоўскі...

(Пачатак на стар. 5).

камендаваў сябе як чалавек з прагрэсіўнымі, дэмакратычнымі поглядамі. У нядаўнім інтэрв'ю карэспандэнту «Известий» новы старшыня КДБ выказаўся за карэннае яго пераўтварэнне, бо нават сама структура органаў дзяржбяспекі была небяспечнай для дзяржавы. Мяркуецца вывад з яго кампетэнцыі многіх службаў, такіх, напрыклад, як пагранвойскі, пазбаўленне права татальнай манаполіі на ўрадавую сувязь, ахову першых асоб у дзяржаве, будзе згорнута і такая дзейнасць былога КДБ, як праслухоўванне тэлефонных размоў і перлюстрацыя карэспандэнцыі. Як Вы, Эдуард Іванавіч, ставіцеся да гэтых ідэй, калі ўлічыць, што Беларусь стала суверэннай дзяржавай і рэспубліканскі КДБ (ці як гэта служба будзе цяпер называцца) будзе дзейнічаць выключна пад кантролем Вярхоўнага Савета Беларусі? І наогул, як будзе ажыццяўляцца суверэнітэт Вашага ведамства? Я гэта пытаюся таму, што ведаю — 6 верасня Вы вярнуліся з Масквы, дзе прысутнічалі на нарадзе, скліканай В. Бакаціным.

І яшчэ. Звужэнне кола дзейнасці КДБ прывядзе, натуральна, да скарачэння яго штатаў. Для людзей, якія з-за сваёй прафесіі, далучанасці да многіх тайнаў, прывыклі адчуваць сваю асабістую выключнасць, гэта будзе адчувальным ударам, тым больш, што многія з іх, відаць, нічым іншым займацца не ўмеюць. Ці стане для Вас праблемай, у выніку ўсяго гэтага, працідзеянне некаторых Вашых супрацоўнікаў? Як вядома, у прыбалтыйскіх рэспубліках частка супрацоўнікаў КДБ адмовілася здаць зброю і перайшла на нелегальнае становішча.

Я б пацікавіўся ў Вас, Эдуард Іванавіч, і Вашым стаўленнем да дэпартызацыі, дэідэалагізацыі органаў бяспекі рэспублікі. Так, пасля рашэння, прынятага на сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі аб дэпартызацыі, партыйны камітэт КДБ будзе, відаць, распушчаны. А як жа з камуністычнай ідэалогіяй? Наколькі я ведаю, Вы, Эдуард Іванавіч, не аб'яўлялі аб сваім выхадзе з ЦК КПБ, з КПСС наогул. Ці не перашкодзіць гэта Вашай дзейнасці ў якасці кіраўніка, будзем спадзявацца, рэарганізаванай на іншых прынцыпах сістэмы дзяржаўнай бяспекі?

І апошняе, што б я спытаў у галоўнага чэкіста Беларусі — гэта пра яго адносіны да асобы Ф. Дзяржынскага, які заплямiў сябе шматлікімі крывавымі злачынствамі. Пакуль што «жалезны Фелікс» глядзіць са свайго пастамента ў вокны Камітэта дзяржаўнай бяспекі рэспублікі...

**Міхась ЗАМСКІ.**

**P. S. Гэты матэрыял быў падрыхтаваны да друку, калі па радыё прагучала выступленне пракурора рэспублікі Г. Тарнаўскага на нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Абвяргаючы абвінавачанні ў свой адрас за няпэўную пазіцыю ў час дзяржаўнага перавароту, пракурор прывёў і такі факт: 20 жніўня яму званілі з Камітэта дзяржаўнай бяспекі і Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі, каб ён забараніў правядзенне антыпутчаўскага мітынгу на плошчы імя Леніна ў Мінску. «Прапанову» гэтую Г. Тарнаўскі, па яго словах, праігнараваў.**

# КАМПАЗІТАР І ПАЭТ

Дзякуючы Барысу Сачанку мы сёння няблага ведаем беларускіх пісьменнікаў, якія пасля вайны па волі лёсу апынуліся на чужыне, у эміграцыі. Гэтага не скажаш пра дзеячаў мастацтва — кампазітараў, спевакоў, акцёраў, мастакоў. Іх творчасць усё яшчэ чакае вяртання на радзіму.

Асабліва багатая спадчына беларускіх эмігрантаў-кампазітараў. Сярод іх ёсць такія значныя творчыя індывідуальнасці, як Мікола Равенскі, Эльза Зубковіч і вельмі папулярны на Захадзе Мікола Куліковіч-Шчаглоў.

Першы з названых кампазітараў, Мікола Равенскі, нарадзіўся 5 лютага 1886 г. у вёсцы Капланцы былога Ігуменскага павета (цяпер Бярэзінскі раён). У дваццатыя гады працаваў дырыжорам БДТ-1, збіраў народныя песні для Інбелкульта, пазней выкладаў у музычным тэхнікуме і кансерваторыі. Пісаў музыку да «Залётаў» В. Дуніна-Марцінкевіча, оперу «Браніслава» (на словы У. Дубоўкі), шматлікія песні (Ю. Віцьбіч сцвярджаў, што менавіта М. Равенскаму належыць музыка да верша К. Буйло «Люблю наш край»). Друкаваў крытычныя артыкулы ва «Узвышшы». У вайну пісаў духоўную музыку (у тым ліку—вядомы гімн «Магутны Божа»). У 1944 годзе Равенскага ўгаварылі (хоць ён не займаўся палітыкай) выехаць на Захад. Жыў ён у Лювене (Бельгія), кіраваў беларускім хорам. Там і памёр 9 сакавіка 1953 года.

Ураджэнка Мінска Эльза Зубковіч вучылася ў прафесара Варшаўскай кансерваторыі Георга Жураўлёва, а затым у Берліне і Штутгарце. У 1922 годзе вярнулася на радзіму, дзе выкладала ў школе і тэхнікуме, а затым, з 1932 года, у кансерваторыі. Напісала нямала рамансаў і песень на вершы беларускіх паэтаў («Дарога» на словы Я. Коласа, «Вясна ў няволі» на словы А. Гаруна, «Прыгажосць Беларусі» на словы М. Кавыля і інш.), некалькі п'ес для фартэпіяна, фантазію «Бульба». У ЗША выдала зборнік «Край мой васільковы», падручнік для піяністаў-пачаткоўцаў «Першыя радасці». Разам са сваёй дачкой Лізай Маркоўскай (мецца-сапрана) часта выступала ў Нью-Ёрку ў беларускіх канцэртах.

Вельмі багатую і шматгранную творчую спадчыну пакінуў пасля сябе Мікола Куліковіч (сапраўднае яго прозвішча — Шчаглоў, Куліковіч жа—прозвішча маці-беларускі, узятае пасля вайны). Нарадзіўся ён 4 лістапада 1897 года на Смаленшчыне. Пераехаўшы ў Мінск (1936), заняўся апрацоўкай беларускіх народных песень. У 1939 напісаў оперу «Кацярына», якая мела вялікі поспех у Маскве. Застаўшыся на акупіраванай тэрыторыі, звярнуўся да гістарычна - фальклорнай тэматыкі (оперы «Лясное возера», «Усяслаў Чарадзей», аперэта «У вырай» на словы Н. Арсеньевай). Трапіўшы ў Германіі ў лагер для перамешчаных асоб, М. Куліковіч арганізаваў там вандроўны Беларускі тэатр эстрады. Потым жыў у ЗША, дзе выдаў кнігу «Беларуская музыка» (1953). Куліковічам апрацаваны звыш шасцісот беларускіх народных песень, пакладзены на музыку вершы М. Багдановіча («Пагоня»), У. Дубоўкі («О Беларусь, мая шыпшына»), Я. Купалы («Я ад вас далёка») і інш.

Пасля смерці М. Куліковіча, якая наступіла ў Чыкага 31 сакавіка 1969 года, яго ўдава, былая прымадонна Венскай оперы Надзея Градэ перадала архіў кампазітара ў бібліятэку імя Ф. Скарыны ў Лондане, дзе ён заняў цэлую шафу. Калі восенню 1989 года я праглядаў гэты архіў, пабачыў там рукапісы опер «Лясное возера» і «Усяслаў Чарадзей», якія безумоўна дачакаюцца сваёй пастаноўкі ў Беларусі, аперэты «У вырай», «Купалле», «Цім-лі-лі», шматлікія песні. Нечакана для мяне аказалася, што М. Куліковіч быў таксама паэтам і драматургам. Для вандроўнага тэатра ў Германіі ён напісаў сцэнкі «Прыгоды дзядзькі Янкі з Гаротнікаў», «Паланянка», «Бяздушная цацка», «Голы нуль» і іншыя.

У тым жа архіве аказаўся невялікі рукапісны зборнік з вершамі М. Куліковіча—лірычнымі, песенна-фальклорнымі. Некаторыя з іх прапаную ўвазе чытачоў «Літаратуры і мастацтва» (правапіс арыгінала захоўваецца).

Адам МАЛЬДЗІС.

Мікола
КУЛІКОВІЧ-ШЧАГЛОЎ



## Менск

Мой родны Менск!
Заўсёды у ўспамінах,
Як інвалід стаіш зь нямой жальбой,
Хадзіў цішком
Я па тваіх руінах,
Ня зварушыць каб ранаў сьвежых боль.
Але ў тваім,
Ў калецным целе, мусіць,
Вагнём палаў ад Прамэтэя дух,
І песьняў хор
Па ўсёй па Беларусі.
Як сьцяг ўздымаў Узвышша моцны рух.
Ах, я б жадаў
Стаць казачнай няўгледкай,
Зьлятаць у Менск, ўглядзецца ў новы твар,
Сучасных дней
Быць няпрыкметнай сьведкай,
Зямны паклон злажыць там на аўтар.
Хоць я ў краю,
Ўсесьветная дзе слава.
Хто перад ім свой капялюш ня зьняў!
Але каб мог
Жыцьцё і Сонца, нават,
На хворы Менск адразу ж прамяняў.
Тут усё ў станьні,
У Мінуўшчыні архіўнай,
Там Новы Дзень паўстане наўзамен.
І я з табой,
Мы разам неразрыўны,
Мой родны кут, мой зруйнаваны Менск!

## Крыжы

На Полацкіх ўзгорках, курганьнях і ўзвышшах
Ў Краі, што душой стаў Крывіцкай мяжы,
Стаяць, ледзь галовы сівыя схіліўшы,
З гранітных, магутных валунаў, крыжы.
Празрыстае неба блакіціць над імі,
Навокал разьлілася срэбра Дзьвіны,
Гады і стагодзьдзі праз іх крочаць міма,
Падзеі і зьявы, наяўнасьць і сны.
Народ пахаваў тут ў сьвяшчэнным абрадзе
Братоў, што злажылі жыцьцё і мячы,
Як помнік ахвярны крыжы тыя ладзіў,
У ім каб мінуласьць сваю зьберагчы.
Тут вогнішчы клалі Ярыле дарамі,
Вандроўнік гуляў тут па стэпах дзікі,
Тут Грознага войскі стаялі шатрамі
І Стэфан Баторы вёў конна паўкі.
Тут замкі ўздымалі і крэпасьці рылі,
Царквы будавалі Хрыстовы мужы,
Тут славілі бойкі і трызны курылі,
Цяпер ўсё змоўкла...— і толькі крыжы.
Калі маеш ў сэрцы ты любасьць і ласку,
Прыходзь сюды ноччу на бераг Дзьвіны.
Цудоўную песьню, дзівосную казку
Пачуеш ад сьведак нямых старыны.
На Полацкіх ўзгорках, курганьнях і ўзвышшах,
У Краі, што душой стаў Крывіцкай мяжы,
Стаяць, ледзь галовы сівыя схіліўшы,
З гранітных, магутных валунаў, крыжы.
І сонца і хмары і буры ў прасторах,
І зелянь і бель апранае палі,
Ў сталёвае моцы каменьні сувора,
Захоўваюць славу радзімай зямлі.

## Вазерца

Упала мне на сэрца
Ціхае вазерца,
Мілае вазерца
Ля маіх вакон,
Доўга, як ў люстэрца,
Я гляджу ў вазерца,
Раз гляджу ў вазерца,—
І ўбачыў сон:
У глыбі вазерца
Бы знайшлася дзьверца,
Расчыніла дзьверца
Мне тайнік дзіўны.
Поўнае вядзерца
Я набраў ў вазерцы,
Я набраў ў вазерца
Зьяваў старыны.
Кажа мне вазерца:
— «Кінь цяпер вядзерца,
Кінь цяпер вядзерца,—
Зьявы ж зберагі.
Ўсё, што сьніў ў вазерцы,
Захавай у сэрцы,
Захавай у сэрцы,
Перадай другім!..»
І пяю на лерцы
Песьню пра вазерца,
Песьню пра вазерца,
Пра дзівосны сон,
Што паклала ў сэрца
Ціхае вазерца,
Мілае вазерца
Ля маіх вакон.

## Падзяка

Прымі падзяку, велі Божа,
За сонца сьвет, за сьпеласць збожжа,
За квет вясновы на вярбе,
За ўсё я дзякую цябе.
За сьмех дзіцяці сэрабрысты,
За погляд дзеўчыны празрысты,
За сьлёзы маці у жальбе,
За ўсё я дзякую цябе.
За край мой родны, край прывольны,
За мой народ магутны, здольны,
Што разам з ім я ў барацьбе,
За ўсё я дзякую цябе.
Што ў сэрцы Ты,— мая Надзея,
Што бачу Перст Твой на сябе я,
Што не скараюся злабе,
За ўсё я дзякую цябе.

## Каляды

Набліжаюцца Каляды...
Хто ж бывае ім ня рады!
Сьвята на Беларусі
Надзвычайнае зусім.
Па дварох там ходзяць з зоркай,
Із каляднай песьняй звонкай,
А «казы» магічны рог
Жытам сыпле на парог...
Весяляцца каля елак,
На санях імчацца сьмела
І Мароза у сям'ю
Запрашаюць на куцьцю.
Ды й дзядоў частуюць смачна,
Усім на Каляды удзячны,
Дрэва ломіцца сталоў
Ад мядоў, віна, бліноў.
П'юць, гуляюць аж да сьвету,
Каб ўрадліваму быць лету,
Працаздольнаму труду,
Пяюць славу ў Каляду...
...Лёс закінуў нас ў чужыну
Ня відаць Зямлю — Краіну,
Хаты, нівы і бары
Быццам бачны ледзь з гары.
Але верныя Каляды,
(Не знаёмыя ім зрады)
Надыходзяць ў пэўны час,
Не забыліся й на нас.
Стукацяць і нам ў ваконца,
Нават у чужой старонцы,
І зьбіраюць на Куцьцю
Беларускую сям'ю.
І мігцяць начною зоркай.
Іх сустрэнім песьняй звонкай,
Сэрцы ўздымем угару,
Успомнім Маці-Беларусь.
Мо, й нам доля усьмяхнецца,
На Радзіме давядзецца
У Новым, Радасным гаду
Пагуляць на Каляду.

## Васількі

(танга)

*ПРЫПЕЎ* О, васількі, сінявокія краскі,
Сымбаль ціхога шчасьця і любоўнай пары,
О, васількі, кветкі кволасьці, ласкі
І блакітных нябёсаў дары!

У часе дня супакою
Мы любілі з табою
Пайсьці ў золата жыта, ў нашы скрытны куткі.
Зоркі нам да сьвітаньня
Вартавалі каханьне
І пяшчотаю грэлі нас сябры васількі.

*ПРЫПЕЎ*

Ты паехаў далёка,
Я сумую глыбока,—
У жыцьці я ня маю тваёй цьвёрдай рукі.
Усюды бачу ледзь цені
І ляжаць у сухмені
На стале прад люстэрцам, як ўспамін, васількі.

*ПРЫПЕЎ*

Раптам ліст да абеду,
Дзе ты пішаш: «Прыеду!»
У хваляваньні лічу я да спатканьня дзянькі.
Мы ізноў ў залатое
Пойдзем ў жыта густое,
Дзе вітаюць із ласкай нас сябры васількі.

## Застольная

Жыцьцё наша — быццам чаўны сярод мора,
Што бураю гоніць бязьлітасны лёс,
То ўздыме у радасьць, то кіне ў гора,
То сьмехам частуе, то хвалямі сьлёз.

*ПРЫПЕЎ* Напоўні ж, мой сябра,
Паўнюткія чары
Сагрэтага хмелем
І дружбай віна...
Адкінем на момант
І гора і мары,
І чаркі асушым
Да самага дна (2 р.).

Ў бяседзе сяброўскай сядзім і гамонім,
І чары ўздымаем і п'ем да зары
За любы народ, за крывіцкія гоні,
Блакітнай радзімы густыя бары.

*ПРЫПЕЎ*

## Дасьледчык

*Люблю шэры твар летапіснага пылу,*
Што варту нясе ля сівых таямніц,
Прыходзіш і скажаш: «Пасунься жа, мілы,
І мне дакрануцца дай мудрых крыніц!»
Гісторыі сьведкі ў спакоі маўклівым...
Прад імі, схіліўшыся, дробна дрыжу,
І нібы сабака ў прыпары пяклівым,
Сухім языком прагна вотнасьць ліжу.
Што Слова! — Ў распусьце Яно з маладосьці,
Шчасьліўцам дае на сябе абанэнт,—
А ты паспрабуй да дасьледчыка ў госьці,
Што ў брудзе імкнецца знайсьці дыямент!
Ганебна слабыя ў мінуўшчыні нашай,
*Народ дзе схаваў залатую руду,*
Сьляпцамі блукаем ў жыцьцёвым кірмашы,
Вякамі апетую гнусім нуду.
А вось, хоць сьляпец із жабрацкаю лерай!
— Дык ён жа нутром бачыў Божую шыр,
Народу зьяўляўся ў Будучынь верай,
Ў вачох паўставаў як Прарок-Праўдадыр!
Эх, каб адшукаць таго лерніка косьці,
З ім разам прайсьціся па сьцежках хоць крок,
Ўплясьці сваю йстужку — (вось сэнс прыгажосьці)
Ў цьвітучы, славутны Радзімы вянок!
Сьпячы каравай каб з адшуканых зерняў,
*Пакласьці на белы, вузорны абрус,*
Ад вопыту здольнасьцяў, сілаў і ўменьняў,
Вітаць падарункам Цябе — Беларусь!

## Вецер

Удаль імчыцца лёгкі вецер:
— «Вецер, вецер, пачакай!
Усюды ты бываеш ў сьвеце,
Мой паклон, будзь ласкаў, вецер,
На Радзіму перадай!»
*Перадай на вёсцы люду,*
На забыўся я на іх,
Што і тут я штосьць здабуду,
Ды і хутка, хутка буду
Сярод нівaў дарагіх!
У адказ мне добры вецер
Прагудзеў каля вакон,
Паімчаўся ў даль па сьвеце,
І панёс імклівы вецер
На Радзіму мой паклон.

# ДЫРЭКТАР МУЗЕЯ

Музей старажытнабеларускай культуры пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР добра вядомы не толькі мінчукам. Гэта, можа, адзіны на Беларусі музей, экспазіцыя якога аб'ектыўна адлюстроўвае гісторыю беларускага народа. У тым, што мы маем гэта, вялікая заслуга Вольгі Васільеўны Церашчатавай, першага дырэктара музея. Зусім нядаўна яна пакінула гэтую пасаду ў сувязі з выхадам на пенсію.

У крутых паваротах жыццёвага шляху Вольгі Васільеўны, як акіян у кроплі вады, адбіваецца пакутлівы лёс нашай Бацькаўшчыны ваеннага і пасляваеннага часу. Яна нарадзілася ў мястэчку Лоеў на Гомельшчыне. Да пачатку вайны паспела скончыць 7 класаў. Падлеткам перанесла цяжкія гады акупацыі і ў 1944 годзе, калі ёй споўнілася 18 гадоў, добраахвотна пайшла ў Чырвоную Армію. Яе накіравалі ў разведшколу. На шчасце, калі канчала школу і атрымлівала ваенную спецыяльнасць радыста, адпала неабходнасць закідаць дывергійныя групы ў тыл ворага. У пасляваенныя гады служыла ў Германіі. Там адчула неабходнасць атрымаць адукацыю. Сталаю жанчынаю скончыла школу. У 1953 годзе, звольніўшыся з арміі, яна пачынае сваю працоўную кар'еру вучаніцай у друкарні ў Мінску, паступае завочна ў Маскоўскі паліграфічны інстытут. Непераадольная цяга да ведаў прывяла яе ў 1958 г. у Акадэмію навук БССР, дзе ў 1962 годзе яна паступіла ў аспірантуру Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Яе першая навуковая праца была прысвечана гісторыі беларускай кніжнай графікі перыяду 1917—1941 гг., па выніках якой у 1968 г. В. Церашчатава абараніла кандыдацкую дысертацыю.

І тут маладога кандыдата мастацтвазнаўства чакаў новы круты паварот лёсу. У 1969 годзе быў утвораны сектар Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Не па ініцыятыве кіраўніцтва Акадэміі навук ці ўрада БССР, а на падставе пастановы СМ СССР аб стварэнні шматтомнага Збору помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР. У рэспубліцы ў той час амаль не было спецыялістаў па гісторыі мастацтва. Ды і адкуль ім было ўзяцца, калі маладая мастацтвазнаўчая навука была літаральна задушана ў 30-я гады, у часы барацьбы з «нацдэмаўшчынай». Не было спецыялістам па старажытным мастацтве і Вольга Васільеўна, але менавіта ёй давялося ўзначаліць групу мастацтва ў новаўтвораным сектары. Так пачалася праца, якая стала галоўнаю справаю жыцця В. Церашчатавай.

З 1970 г. распачаліся экспедыцыі па выяўленні і фіксацыі ацалелых помнікаў. І экспедыцыя В. Церашчатавай была адной з тых, што не абмяжоўваліся фатаграфаваннем і апісаннем абразоў і скульптуры, а пачалі прывозіць іх у акадэмію. Помнікі, якія былі закінуты на гарышчы цэркваў і касцёлаў, на дрывотні, асуджаны на гібель у зачыненых і разбураных храмах. Прэзідэнт Акадэміі навук М. Барысевіч выдзеліў пакой, дзе і пачала складвацца акадэмічная калекцыя старажытнага мастацтва Беларусі. Але ў 1974 годзе гэтая калекцыя (больш як паўтысячы каштоўных твораў 16—18 стст.) была знішчана. Людзі, якія па сваіх службовых абавязках павінны былі клапаціцца аб развіцці нацыянальнай культуры, зрабілі ўсё, каб пазбавіцца ад «незаконнага дзіцяці» напярэдадні прыезду ў Мінск камісіі ЦК КПСС па праверцы ідэалагічнай працы ў кампартыі Беларусі і сумна славутага красавіцкага (1974 г.) пленума ЦК КПБ. Калекцыя прымусова была перададзена ў Дзяржаўны мастацкі музей БССР, дзе яе лепшая частка асела ў сховішчах, а рэшта разаслана па раённых краязнаўчых музеях. Дагляднічка калекцыі Э. Вецер звольнілі з працы. Дарма некаторыя лічаць, што рэпрэсіі супраць беларускай культуры абмяжоўваюцца 30-мі гадамі...

У такіх варунках патрабавалася вялікая грамадзянская мужнасць, каб узяць адказнасць за музейны фонд Акадэміі навук на сябе і працягнуць справу збіральніцтва. Больш за 60 экспедыцый правяла Вольга Васільеўна, наведваючы па некалькі разоў кожны храм, сотні вёсак, збіраючы унікальныя экспанаты і адначасна займаючыся іх рэстаўрацыяй і падрыхтоўкай экспазіцыйнай плошчы. Гэта яна знайшла самы старажытны абраз, што захаваўся на Беларусі — «Багамаці замілаванне» з Маларыты. Сваімі рукамі зняла з-пад столі ў зачыненым касцёле ў Дрысвятах «Пакланенне вестуноў 1514 г.». Былі выпадкі, калі ў музейную калекцыю перадаваліся помнікі толькі пасля таго, калі святары пераконваліся, што прыехала менавіта экспедыцыя В. Церашчатавай.

Стыль збіральніцкай працы Вольгі Васільеўны заўсёды вызначаўся высокаю культураю. Яна ніколі не хлусіла людзям, не забірала помнікі гвалтам. Толькі тое, што не патрэбна храму, альбо тое, што вельмі патрэбна музею. І толькі з добраахвотнай згоды. І ніколі за грошы, акрамя этнаграфіі — посцілак, вопраткі, посуда, прылад працы.

Разам з тым, ёй прыйшлося праявіць выдатныя здольнасці да кампрамісу, выражаючы складаныя гаспадарчыя і арганізацыйныя пытанні з людзьмі, якія зусім не гарэлі жаданнем адчыніць першы сапраўды нацыянальны музей, улагоджваючы адносіны паміж энтузіястамі — добраахвотнікамі, на дапамогу якіх яна абапіралася, і звычайнымі бюракратамі, ад дазволу якіх залежала вырашэнне кожнай дробязі.

І музей быў адчынены. Адчынены 15 мая 1979 г., роўна праз 5 год пасля разгрому першай калекцыі. Дакладна да святкавання 50-х угодкаў беларускай Акадэміі навук. Вось што запісаў у першым водгуку сусветна вядомы астраном акадэмік В. Амбарцумян: «Я, прадстаўнік Армянскай Акадэміі навук, ведаў і да сённяшняга дня, што ў беларусаў можна вельмі многаму навучыцца. Але, пагледзеўшы музей, выходжу з яго ў захапленні, шкадуючы аб тым, што не магу больш падрабязна азнаёміцца з кожным з яго экспанатаў. Няхай жыве наша родная Беларусь, край старажытнай і каштоўнейшай культуры!»

У момант адкрыцця ў фондах музея было больш як 1000 помнікаў мастацтва і 15 000 помнікаў этнаграфіі і археалогіі. Яго экспазіцыя ахоплівала ўсе бакі традыцыйнай культуры Беларусі: працоўную, побытавую, прафесійную ва ўсіх шматгранных яе праявах. Акрамя таго, архіў музея сканцэнтраваў дакументальныя дадзеныя па тых помніках, якія засталіся на месцах. Музей стаў як бы банкам інфармацыі, эксперыментальнай лабараторыяй для гісторыкаў культуры. Пасля адкрыцця быў выдадзены Каталог і тры зборнікі артыкулаў па асобных пытаннях гісторыі беларускай культуры, падрыхтаваны да друку чацвёрты. Агульная колькасць экспанатаў павялічылася да 30 000 адзінак.

Аднак і за 12 год, што праляцелі пасля адкрыцця Музея старажытнабеларускай культуры, не ўдалося вырашыць усе пытанні. Доўгі час музей быў зачынены для шырокага гледача, абслугоўваў выключна гасцей Акадэміі навук. Не наладжана як след рэстаўрацыйная справа. Слаба растуць навуковыя кадры. У вельмі сціплых памерах ажыццяўляецца прапаганда шэдэўраў старажытнага беларускага мастацтва. Але ў гэтых хібах павінна не так В. Церашчатава, як кіраўніцтва АН і інстытута, якому музей падпарадкаваны. Іх выпраўленне будзе залежаць ад наступніка Вольгі Васільеўны па пасадзе загадчыка музея, яе паплечніка па першых экспедыцыях, доктара мастацтвазнаўства В. Шматава.

Сама ж Вольга Васільеўна, стварыўшы музей, не набыла ні навуковых, ні ганаровых званняў ці прэмій. Наадварот, за арганізаваны ў 1982 г. агульнагарадскі семінар «Культура Беларусі — традыцыя і сучаснасць» ёй у 1986 г. была вынесена строгая вымова па партыйнай лініі — «за ідэалагічныя памылкі». Ідэалогія сумленнай працы на карысць Бацькаўшчыны ўсё больш разыходзілася з ідэалогіяй КПБ, таму незадоўга да пенсіі В. Церашчатава выйшла з радоў партыі, у якой была 40 год, яшчэ раз прадэманстраваўшы сілу свайго характару і глыбокую веру ў векавечныя ідэалы гуманізму.

Лёс наканаваў ёй стаць прадаўжальніцай справы вялікіх сыноў Беларусі Івана і Антона Луцкевічаў, якія стварылі ў пачатку веку Беларускі музей у Вільні, і яна з годнасцю пранесла гэты цяжкі крыж. Ёсць у Злучаных Штатах Амерыкі традыцыя — кожны, каго народ абірае прэзідэнтам, да канца жыцця карыстаецца ганаровым правам звацца «спадар Прэзідэнт». Сваёю падзвіжніцкай працаю Вольга Васільеўна заслужыла пажыццёвае права карыстацца тытулам «дырэктар музея». Няхай жа лёс даруе ёй добрае здароўе на доўгія гады, а Музею старажытнабеларускай культуры — магчымасці плённай працы на ніве беларускага Адраджэння.

**Ю. ХАДЫКА.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# ПАМЯЦЬ— НА СМЕТНІК?

Не ведаю, як пачаць гэты допіс, як расказаць пра той страшны акт вандалізму, што адбыўся ў нашых Жыровічах, дзе знаходзіцца славуты Жыровіцкі манастыр.

Музей у Жыровіцкім саўгасе-тэхнікуме, так сказаць, пад барабанны грукат адкрылі ў 1981 годзе, а летам 1990 года па-варварску знішчылі, павыкідаўшы з вокнаў на вуліцу, пад страдаўнія манастырскія сцены яго экспанаты, якія дзесяць гадоў збіралі навучэнцы і выкладчыкі тэхнікума. Многае пабачылі манастырскія муры, але такое, пэўна, упершыню. Аб гэтым мне расказвалі жыхары Жыровіч, з якімі я сустракаўся. Некаторых з іх добра ведаю, бо ў свой час працаваў у мясцовай сярэдняй школе. Шчыра кажучы, не паверыў сваім вушам, калі першы раз пачуў ад знаёмага з Жыровіч: «А музея ў тэхнікуме ўжо няма, знішчылі яго».

**Слухаць гэта было балюча і прыкра. Там, у Жыровічах, засталася і часцінка маёй душы. З мясцовымі настаўнікамі і вучнямі мне давялося аднаўляць прозвішчы, імёны, гады нараджэння жыхароў вёскі Андрэева (яна знаходзілася непадалёку ад Жыровіч), спаленых у час вайны карнікамі ў гумне. Дагэтуль памятаю расказы жыхароў вёсак Залессе і Загор'е аб тым, як яны збіралі на пажарышчы абгарэлыя косці, гузікі, школьныя пёркі, узятыя дзецьмі з сабою — мусіць, пашкадавалі пакідаць у хаце, баяліся, што забяруць гітлераўцы. У свой час пра гэтыя пёркі я нават напісаў апавяданне. А пошукавую работу так да канца і не давёў, бо перавялі на іншае месца працы. І рады быў, калі пазней, наведаўшы музей, убачыў памайстэрску выкананы макет палаючай хаты і доўгі спіс спаленых жыхароў вёскі Андрэева.**

У даўняй газетнай публікацыі аб музеі Жыровіцкага саўгаса-тэхнікума чытаю: «У адным са шматлікіх запісаў, пакінутых у кнізе наведвальнікаў музея, гаворыцца: «Дзякуем стваральнікам музея за магчымасць пазнаёміцца з бытам беларускай вёскі, з гераічнымі справамі воінаў Савецкай Арміі і партызан». Такі водгук пакінула чэхаславацкая дэлегацыя з Брацiславы. Чэхі і славакі за тысячы кіламетраў ехалі не толькі дзеля таго, каб пагледзець на Жыровіцкія цэрквы, але каб пазнаёміцца з гераічнымі справамі воінаў і партызан у час вайны. І вось музея няма. Куды зніклі яго экспанаты, тыя ж пажоўклыя ад часу пісьмы франтавікоў, фотаздымкі часоў вайны? Былі ў музеі і экспанаты, якія перадавалі атмасферу жыцця пры фашысцкай акупацыі, сярод іх — загады і аб'явы акупацыйных улад. У адных забаранялася з'яўляцца на вуліцах вёскі з 22 да 5 гадзін, у другіх ад сялян патрабуюць тэрмінова здаваць прадукты харчавання. Дэманстраваўся ў музеі скураны бізун з касцяной рукаяткай, які быў знойдзены на гарышчы Жыровіцкага паліцэйскага ўчастка. Магчыма, якраз ім карыстаўся слонімскі гебітскамісар Герхард Эрэн ці ягоны памагаты начальнік штаба жандармерыі Лотар Шульц, чорная памяць аб якіх дагэтуль жыве ў навакольных вёсках. Помніцца мне выстаўленая ў музеі копія акта, дзе пералічаны былі ахвяры гітлераўцаў, сярод іх хірург К. Жураўлёва з дочкамі пяці і сямі гадоў, зубны лекар В. Чарняўская з двума сынамі двух і пяці гадоў, лекар Д. Зайцаў, інжынер Т. Сяргеева, бухгалтар І. Нічыпаровіч, пятнаццаць навучэнцаў настаўніцкай семінарыі. Экспанаваліся ў музеі прылады і рэчы даўняга сялянскага побыту. Усяго гэтага зараз няма. Як расказваюць відавочцы, усе экспанаты былі пагружаны на самазвал і вывезены на сметнік.

Пра гэта я ў свой час напісаў у раённай газеце «Слонімскі веснік». Хоць прайшло нямала часу, але адказу на публікацыю няма. Усе маўчаць. Мо скажа сваё слова Міністэрства культуры, якое калісьці зарэгістравала Жыровіцкі музей баявой і працоўнай славы?

**Аляксей ЯКІМОВІЧ,**
**член Саюза пісьменнікаў Беларусі.**
г. Слонім.

# Як Данілу Шчэню «згубілі»

Не, што ні кажыце, а цікавая навука — гісторыя. Цікавая яна ўжо тым, што робяць, а затым пішуць яе не хто-небудзь, а людзі. Людзі ж, як вядома, бываюць розныя, асабліва тыя, што пішуць. Кожны з іх кіруецца сваімі матэрыяламі, сваім веданнем гісторыі, сваім светапоглядам і сваімі правіламі. Мабыць, таму і гісторыя з розных бакоў гледжання вельмі часта бывае неаднолькавая, асабліва тады, калі нейкія моманты ў той ці іншай гістарычнай падзеі аднаму з бакоў успамінаць не вельмі прыемна ці нават зусім непажадана.

Менавіта ў гэтай «далікатнай» сітуацыі і пачынаюць перакручваць гістарычныя факты і пісаць не так, як было, а так, «як трэба». А калі далей гэты выкрунтас выкарыстоўваць ужо нельга, дык найлепшы спосаб своечасова спыніцца. І каб абавязкова — у патрэбным месцы! Не верыце? І я таксама не верыў, пакуль не ўзяў у рукі кніжку Вадзіма Віктаравіча Каргалава «Полководцы», надрукаваную выдавецтвам «ДОСААФ СССР» у 1989 годзе ў Маскве. Ёсць у гэтай кніжцы апавяданні пра жыццёвыя шляхі Святаслава, Уладзіміра Манамаха, Аляксандра Неўскага, Дзмітрыя Данскога, Ермака, іншых палкаводцаў, але асабліва мяне зацікавіў лёс Данілы Шчэні.

Як піша В. Каргалаў, «Даніла Шчэня — маскоўскі ваявода, таленавіцейшы палкаводзец эпохі ўтварэння Расійскай дзяржавы. Узначальваў паспяховыя паходы на Літву, Лівонію, Фінляндыю, Казань, Крым. Асабліва вызначыўся разгромам літоўскага войска на рэчцы Ведрашы». Даючы «навуковае тлумачэнне» захопніцкай палітыкі Расіі ў адносінах да Вялікага княства Літоўскага, аўтар піша так: «Вялікае княства Літоўскае выкарыстала аслабленне Русі пасля страшнага Батыевага пагрому дзеля расшырэння сваіх уладанняў. У канцы XIII стагоддзя вялікія літоўскія князі далучылі Полацкую зямлю з гарадамі Полацкам, Менскам, Віцебскам; у пачатку наступнага стагоддзя — Турава-Пінскае княства. Потым да Літвы адышлі Валынь, Падолія, Кіеўскае і Чарнігава-Северскае княства, Смаленская зямля. Гэтыя вялізныя ўладанні мелі рускае насельніцтва (!), княжылі там князі рускага княжацкага роду (!), прызнаваўшыя васальную залежнасць ад Літвы (!). Па падліках гісторыкаў, уласна літоўцаў у дзяржаве было не больш адной трэці, яе нават часта называлі Літоўска-Рускай (!). Але, звязанае з Польшчай дынастычнай уніяй, Вялікае княства Літоўскае праводзіла варожую да Расіі палітыку (хто да каго? — **У. Д.**), усяляк перашкаджала аб'яднанню рускіх зямель (!). Выкарыстоўвала Літва і адкрытыя ваенныя напады». Цікава, ці ж не праўда? І ўжо зусім не дзіўна, што пасля такіх «гістарычных разважанняў» аўтару нічога не застаецца, як рабіць катэгарычную выснову аб тым, што «вернуть исконно русские земли (?!), захваченные литовскими князьями, можно было только войной». Яшчэ цікавей аўтар «абгрунтоўвае» неабходнасць «вызваленчай місіі» рускіх войск: «Город Смоленск являлся ключом к решению задачи исторического значения — воссоединения с Россией братских украинского и белорусского народов, к дальнейшему продвижению в Прибалтику».

Далей — болей. І вось ужо В. Каргалаў з непавагай піша пра гетмана Кастуся Астрожскага і з вялікім уздымам расказвае пра перамогу рускіх на рацэ Ведрашы. Блішчыць і зззяе ваенны талент Данілы Шчэні ў параўнанні з сярэднімі здольнасцямі беларускага воя! «Полководец войска вместе с большинством знатных лиц попадает в плен... Разгром был полный, отборная армия гетмана Острожского фактически перестала существовать... Литве нанесли сокрушительное поражение, исключавшее активные военные действия со стороны великого литовского князя Александра».

**Так, ды крыху не так. Бо змагаўся Кастусь Астрожскі ў акружэнні ворагаў да апошняй хвіліны бітвы, і ўзяць яго ў палон змаглі толькі тады, калі паранілі. Бо калі армія і сапраўды перастала існаваць, дык чаму ж маскоўцы не змаглі дабіцца далейшых поспехаў на тэрыторыі Вялікага княства *Літоўскага*? Непераканаўча гучаць спробы аўтара растлумачыць такое становішча ўзнікшымі пагрозамі «искони русским землям» з боку рэштак Вялікай Арды і Лівонскага ордэна. Калі згадаць, што бітва на Ведрашы адбылася 14 ліпеня 1500 года, дык не пераконваюць і словы Івана III да крымчацкага хана Мянглі-Гірэя: «а к Смоленску, господине, воевод с людьми не посылал того для, что снеги выпали великие, да у корму конского от Смоленска мало, не на чём многим людям стоять». Не трапляе чамусь у поле зроку В. Каргалава той факт, што БЫЛІ рускія войскі ў 1500 годзе пад Смаленскам! Былі і аблажылі горад, які па-геройску бараніўся амаль два гады. «Забывае» *сказаць ён і пра тое, што ў 1501 годзе* Вялікі князь Аляксандр не толькі адкінуў іх ад Смаленска, але пагнаў назад і нават заняў саму Маскву. Дык ці ж можна тут весці гаворку пра выключэнне актыўных дзеянняў?**

Параненага Кастуся Астрожскага ворагі адвезлі ў Вологду. Пад прымусам ён нават згадзіўся служыць маскоўскаму цару, але ўвесь час не пераставаў думаць пра працяг барацьбы. *З гэтай думкай ён у 1507 го*дзе ўцёк з палону і неўзабаве зноў узначаліў беларускае войска.

На зыходзе 1512 года маскоўскі князь Васіль III распачаў супраць ВКЛ новую вайну. У студзені яго незлічоныя раці абступілі Смаленск і пачалі чыніць рэйды да Друцка, Оршы, Барысава, даходзячы нават да Віцебска і Менска. Кіраваў рускімі войскамі ўсё той жа Даніла Шчэня. Поспехаў гэты паход не прынёс. Шэсць тыдняў стаялі маскоўскія войскі пад Смаленскам, білі па ім з гармат, штурмавалі, але ўзяць не змаглі. Наш аўтар зноў «бядуе»: «Сильно огрызался град Смоленск, свой вроде бы город, а ныне хуже чужого, смертоносный...»

Чужынцы вярнуліся ў Маскву, сабралі яшчэ большыя войскі і ўжо 22 верасня 1513 года зноў з'явіліся пад сценамі горада. Але ізноў беспаспяхова прайшлі чатыры тыдні бесперапынных намаганняў захапіць Смаленск. Тады ў дзеянне ўступіла дыпламатыя. Яе стараннямі была ўтворана кааліцыя паміж Маскоўскай дзяржавай і Свяшчэннай Рымскай імперыяй. Дамовіліся, што тэрыторыі непрыяцельскіх дзяржаў падлягалі раздзелу: Імперыя атрымлівала права на «свае» землі ў Польшчы, а Масква — на Беларусь і Украіну. Абодва бакі прадугледжвалі нават дапамогу адзін аднаму збройнай сілай. Так распачаўся трэці смаленскі паход, для арганізацыі якога рускае 80-тысячнае войска прыйшлося папоўніць наёмнымі кнехтамі з Захаду. На жаль, усе гэтыя гістарычныя факты не адлюстроўваюцца В. Каргалавым. Сем тысяч «наёмных польскіх жаўнераў» у войску Вялікага княства ён бачыць, а вось кнехтаў у Маскоўскім войску Данілы Шчэні заўважаць не хоча.

***29 ліпеня 1514 трыста гармат пачалі* бесперапынную страляніну па Смаленску, якая цягнулася тры дні і тры ночы. Ад гармат буйнога калібру пачалі падаць вежы і сцены гарадскіх умацаванняў. Ваявода Юры Салагуб не вытрымаў і капітуляваў. Настаў зорны час Данілы Шчэні! «Это было почетнейшее поручение — первым войти в побежденную крепость, принять присягу у горожан и говорить с ними от имени «государя всея Руси». Это было признание выдающихся заслуг и ратной доблести большого воеводы Даниила Щени, его более чем двадцатилетних воинских трудов на опасном литовском рубеже. Слава Даниила Щени началась со славной победы на Ведроше. Завершилась его военная биография не менее славно — в коленопреклоненном Смоленске, над которым вновь реяли русские стяги».**

Такім вось мажорным акордам спыняе свой расказ пра маскоўскага ваяводу, які, дарэчы кажучы, паходзіў з роду вялікага князя літоўскага Гедыміна, аўтар кнігі «Полководцы» В. Каргалаў. І, трэба аддаць яму належнае, на майстэрскім узроўні выкарыстоўвае «способ своечасовага спынення», спасылаючыся на тое, што «после 31 июля 1514 года ни разрядные книги, ни летописи о Данииле Васильевиче Щене не упоминали».

Але куды ж падзеўся «таленавіцейшы палкаводзец» рускага войска? Я задаў сабе гэтае пытанне і пачаў цікавіцца далейшым лёсам маскоўскага ваяводы. Не, яго жыццё не скончылася 31 ліпеня 1514 года. Пасля захопу Смаленска амаль усё 80-тысячнае рускае войска рушыла на Барысаў і Менск. Маскоўскі ўладар даў наказ ваяводам Данілу Шчэні, Міхайлу Галіцы Булгакаву і Івану Чаляднiну «войскі Літоўскія і Польскія з каралём да Масквы як быдла пугамі прыгнаць».

**...Вельмі хутка капітулявалі Мсціслаў, Крычаў, Дуброўна. Кароль і вялікі князь Жыгімонт змог супроцьпаставіць рускай навале толькі 25 тысяч жаўнераў пад кіраўніцтвам гетмана Кастуся Астрожскага. З 7 на 8 верасня 1514 года войскі сустрэліся каля рэчкі Крапіўна, што ўпадала ў Дняпро непадалёк ад Оршы. Гетман вельмі ўдала размеркаваў артылерыю і паставіў свае войскі так, што ў цэнтры знаходзіліся 16 тысяч беларусаў і літоўцаў, а па баках — 9 тысяч палякаў.**

**У бой былі кінуты галоўныя сілы. Кастусь Астрожскі *«аддзякаваў» маскавітаў* за навуку пад Ведрашай. Разгром вялізнага маскоўскага войска стаў цэнтральнай падзеяй той цяжкай вайны, якая ўратавала беларуска-літоўскую дзяржаву ад чужога панавання. Васіль III уцёк у Маскву. Уцёк разам з ім і Даніла Шчэня...**

З снежня 1514 года гетман Астрожскі трыумфальна ўвайшоў у сталіцу Княства са сваім пераможным войскам, з палоннымі маскоўскімі ваяводамі, баярамі, князямі. Трапіў і памёр у палоне Іван Чаляднін (у 1523 годзе яго яшчэ бачыў закаваным у кайданы ў Вільні Сігізмунд Герберштэйн). Масква пачала лічыцца з Вялікім княствам Літоўскім. Аб гэтым гаворыць нават той факт, *што Міхайла Галіца Булгакаў, якога* Кастусь Астрожскі спачатку адпусціў у Маскву, па патрабаванні караля Жыгімонта быў выдадзены маскоўцамі назад і таксама трапіў у саракагадовы палон. Але ж Міхайла Галіца Булгакаў быў не кім-небудзь, а пляменнікам Данілы Шчэні! Ці ж не ў гэтым хаваецца разгадка «знікнення» з рускіх летапісаў прозвішча разбітага палкаводца?

Неўзабаве княжацкая міласць пакінула і сына Данілы Шчэні Міхайлу Шчаняцева, бо, шукаючы сабе новую жонку, Васіль III катэгарычна падкрэслівае, каб яна ні ў якім разе не была «в племени» Шчаняцевых. Урэшце, калі да ўлады ў 1533 годзе прыходзіць Іван IV Жахлівы, род Шчаняцевых наогул чамусь абрываецца на ўнуках Данілы Шчэні Пятру і Васілю...

Вось аб чым можна было б расказаць чытачам кніжкі «Полководцы», калі б яе аўтар не спыніў свой расказ пра ваяводу Шчэню на 31-ым ліпеня 1514 года, а давёў яго да 1515 года, у якім Даніла Шчэня і сапраўды апошні раз прыгадваецца ў разраднай кнізе як ваявода ў Дарагабужы. Думаю, што славы ад гэтага ў Данілы Шчэні не зменшылася б. Ён і так застаўся ўвекавечаным у адной з фігур помніка «Тысячелетие России», што стаіць у старажытным Ноўгарадскім крамлі. Кастуся Астрожскага побач з ім няма, бо помнікі таксама будуюць не хто-небудзь, а ўсё тыя ж людзі... Але як усё ж добра, што ў апошні час і ў нас з'явілася магчымасць вывучаць пакрыху сапраўдную гісторыю Беларусі, ставіць помнікі ў сваіх гістарычных мясцінах. Дык ці ж не час яе выкарыстаць?

**У. ДЗЕХЦЯРУК.**

Эстонія,Ківіылі.

---

**Марцін КОЎЗКІ**

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

**Позна, пагарэльцы, аплакваць свой дом, скардзіцца, што босыя і голыя. Вас папярэджвалі: «Не жартуйце з агнём!». З іскры ўзгарэлася полымя.**

●

**Мастацтва пачыналася з Крамля. Адсюль ішло святло вялікіх зорак. Якая беларуская зямля, расказвалі маскоўскія акцёры. Сваіх здымаць лічылася зарана, і мова нема плакала з экрана.**

●

**«Рэабілітаваць»,— рашылі ў ЦК. «Жывымі!» — здзівілася ЧК.**

●

**Павел Уласаў... Паўка Карчагін... Паўлік Марозаў... Недахопам беларускай літаратуры лічылася, што ў яе не было такіх станоўчых герояў. Ва ўцяшэнне ўніклівыя літаратуразнаўцы выявілі наша сваяцтва з адным з узорных Павалаў.**

●

**Казка пра нейкую краіну, дзе ўсё было аднолькавым — дамы, плошчы, кіёскі, дзе з дня ў дзень людзям паўтаралі адно і тое ж, і самі яны зрабіліся ці не аднолькавымі, хіба што прозвішчы насілі розныя, але дазнацца пра гэта можна было ўжо на могілках, дзе стандартныя помнікі з мармуровай крошкі адрозніваліся толькі надпісамі...**

●

**Не стае часопісам чагосьці. Можа, не былі б такімі кволымі, каб той «Беларусі» — маладосці, а той «Маладосці» — полымя.**

●

**Легенда. Хто вы, спыталі Леніна, калі перапісвалі ветэранаў. Ленін, але не ленінец, рашуча адказаў Ульянаў.**

●

**«Дзяржава — Радзіма — Камунізьм» — вось такі марксізьм.**

●

**Можа, на тым свеце і чакае нас светлае будучае, але як да яго дажыць?**

●

**Курапаты, Курапаты ад Камчаткі да Карпатаў... Там, дзе вязні, там, дзе каты, там і сёння Курапаты. Ды страшней за ўсякіх катаў адвакаты Курапатаў.**




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.**

**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**
Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар—33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ—33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ—33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ—33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ—33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА —33-22-04, аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК—33-24-62; бухгалтэрыя—26-86-40.



Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12